
Віцебскі алфавіт
Трыццаць дзве адметнасці нашага горада
VK.com/VitebskABC

# Уводзіны

Віцебск — горад, які па-сапраўднаму любяць яго жыхары. Мясціны з тысячагадовай гісторыяй шануюцца гасцямі з іншых краін, прыцягваюць увагу даследчыкаў і творцаў. Гісторыя саткала стракатае палатно з энергічных асоб, адданых супольнасцей, мастацкіх вобразаў, унікальных падзей, дасягненняў, страт. Яны твораць дух горада, адчуванне якога надае «віцебскасці» кожнаму з тутэйшых грамадзян.

Эфемерная «віцебскасць» складаецца з мноства цвічкоў і нацягнутых між імі рознакаляровых нітак сувязі. Адметнасці, якія лічаць важнымі гараджане, ствараюць сетку вобраза, блізкага і зразумелага часам толькі ім. Высветліць, што гэта за адметнасці, — разабрацца ў тым, што стаіць за мелодыяй фразы «Я — з Віцебска». Як паказаў гэты праект, стаіць за тым нямала.

Па закліку арганізатараў «Віцебскага алфавіта» ўвосень 2015 г. жыхары горада даслалі амаль 250 віцебскіх феноменаў у парадку па літарах беларускага алфавіта. Людзі пісалі на электронную пошту, у вылучаныя акаўнты сацыяльных сетак, адгукаліся на заклікі ў мясцовай інтэрнэт- і друкаванай прэсе. Прапановы мелі вельмі розны характар, часам на мяжы фарса. Найбольш вартыя з іх адабрала спецыяльна сабранае журы. У яго склад уваходзілі:

- Святлана Баранкоўская, мастачка, старшыня Віцебскага аддзялення Беларускага саюза мастакоў;
- Вольга Давідоўская, галоўны захавальнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея;
- Анатоль Дулаў, кандыдат гістарычных навук, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава;
- Канстанцін Карпекін, кандыдат гістарычных навук, галоўны захавальнік Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці;
- Мікалай Півавар, кандыдат гістарычных навук, краязнаўца, настаўнік Віцебскай кадэцкай вучэльні;
- Міхаіл Цыбульскі, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава;
- Дзяніс Юрчак, кандыдат гістарычных навук, галоўны спецыяліст упраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама.

По ўмовах праекта журы не мела права дасылаць свае феномены і ўносіць дадат-

ковыя ва ўжо сфармаваны «народны» спіс. Спісы, якія атрымалі члены журы, адлюстроўвалі таксама і колькасць людзей, якія даслалі кожны феномен.

Ацэнкі адмыслоўцаў не былі аднолькавымі, але іх галасы высветлілі яўных фаварытаў, якія часта супадалі з найбольш папулярнымі сярод жыхароў адметнасцямі. Да такіх можна аднесці Альгерда, Васіля Быкава, Віцьбу, Дзвіну, Віцебскія замкі, IFMC, тэатр «Лялька», Юдэля Пэна, Ратушу, віцебскі трамвай, УНОВІС, Марка Шагала і шэраг іншых.

Задачай «Віцебскага алфавіта» было вылучыць самыя моцныя віцебскія вобразы. Формай для гэтага была абраная структура беларускай абэцэды. Такое вырашэнне зрабіла кожную адметнасць выразнай і заўважнай, самай-самай, але ўнесла і шэраг праблем. Галоўны прынцып, якім карысталіся пры іх вырашэнні, — гэта адлюстраваць у каталогу як мага большую колькасць папулярных феноменаў, каб найменшая частка з іх засталася па-за зборам.

Вядома, напрыклад, што для беларускай мовы не характэрныя словы, якія пачынаюцца з літар Е, Ё ці О. Цяжка ўявіць віцебскі феномен, які б пачынаўся на Ы ці Й. З літары Ў можа пачацца феномен, калі ён складаецца з некалькіх слоў, і яна знікне, калі пераставіць словы месцамі. Часам здаралася, што на адну і тую ж літару пачынаецца некалькі феноменаў-фаварытаў, колькасць галасоў за каторыя адрознівалася нязначна. На літару Ч лідарам быў бітлз-клуб «Чердачок», але вельмі нязначна ад яго адставаў славуты «Чарцёж горада Віцебска 1664 года». «Чарцёж» быў вынесены на літару Ё, бо яна прынамсі ўтрымліваецца ў назве. Гэтакім жа чынам пад літарай Й з'явіўся Мінай Шмыроў, які не змог скласці канкурэнцыю Марку Шагалу пад літарай Ш, але таксама меў шмат галасоў. Постаць славутага беларускага пісьменніка была самая папулярная на другую літару алфавіта, але ўрэшце Васіль Быкаў апынуўся пад літарай Ў. На ўнікальную беларускую графему прапаноў не паступіла, затое пасля пераносу пад літарай Б вызвалілася пазіцыя для яшчэ адной папулярнай з'явы — «Славянскага базара».

Каб уключыць большую колькасць папулярных феноменаў, адбывалася ратацыя, калі адна і тая ж прапанова дасылалася на розныя літары. Гэтак тэатр імя Якуба Коласа быў прапанаваны і на літару Т, і на літару Я. Ён урэшце быў перанесены на апошнюю, каб вызваліць ячэйку для таксама вельмі папулярнага феномена, які дасылалі толькі на літару Т, — віцебскага трамвая.

Пры працы з адметнасцямі мы мелі не інфармацыю «са столі», а рэальныя прапановы жыхароў горада. Іх ацэньвалі кампетэнтныя сябры журы, феномены ўключаліся ў алфавіт па прынцыпе адлюстравання найбольшай колькасці віцебскіх цікавостак. Артыкулы паводле адабраных феноменаў пісалі віцебскія гісторыкі, музеёлагі, краязнаўцы, спецыялісты па мастацтве і архівазнаўстве — іх імёны адлюстраваныя напрыканцы збора.

Арганізатары праекта выказваюць шчырую падзяку ўсім аўтарам, сябрам журы, жыхарам Віцебска і іншым асобам і арганізацыям, якія спрычыніліся да рэалізацыі «Віцебскага алфавіта».

# А

# Альгерд



Помнік вялікаму князю Альгерду ў цэнтры Віцебска

Для жыхароў кожнага горада былога Вялікага Княства Літоўскага вялікі князь літоўскі Альгерд Гедымінавіч — кіраўнік дзяржавы, пры якім адбыўся росквіт княства. За час праўлення Альгерда тэрыторыя ВКЛ павялічылася ўдвая і яно стала самай вялікай і магутнай дзяржавай сярэдневяковай Еўропы. Менавіта ён далучыў да ВКЛ Чарнігава-Северскае, Бранскае княствы, гарады Ржэў, Мсціслаў, Тарапец, Кіеўскае княства, Прычарнаморскія землі, паўднёвае Падняпроўе, Падольскую, Пераяслаўскую і Валынскую землі. У палітычнай залежнасці ад яго апынулася і Смаленскае княства (1350-я гг.).

Для віцяблян Альгерд не толькі вялікі князь, а яшчэ і ўладар, які адыграў важную ролю ў гісторыі горада і ўсёй віцебскай зямлі. У 1318 г. ён ажаніўся з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай. У 1320 г. пасля смерці яе бацькі, віцебскага князя Яраслава Васільевіча, Альгерд атрымаў княства ў спадчыну. Горад увайшоў у склад ВКЛ. На працягу 1320–1345 гг. Альгерд жыў у Віцебску. У гэты час ён дбаў пра горад, садзейнічаў яго развіццю, будаўніцтву ягоных умацаванняў.

У 1345 г. Альгерд стаў вялікім князем літоўскім і пастаянна жыў у Вільні. Княжыў ён на пару са сваім братам Кейстутам і абраў галоўным вектарам сваёй знешняй палітыкі ўсходні і паўднёвы напрамкі. Часта ваяваў з Вялікім Княствам Маскоўскім, Залатой Ардой. Менавіта ў гэты час Віцебск становіцца важным ваенным і адміністрацыйным фарпостам дзяржавы на ўсходнім напрамку ВКЛ. Новай ролі, якую пачынае адыгрываць горад у знешняй палітыцы ВКЛ, мусілі адпавядаць і ўмацаванні. Альгерд пачынае будаўніцтва каменных замкаў у Віцебску. Дзякуючы гэтаму тут утвараецца буйнейшы рэгіянальны цэнтр Беларусі. Калі б не ён, Віцебск мог бы застацца сярэдняй рукі мястэчкам ці нават вёскай, якімі цяпер з'яўляюцца роўныя некалі Друцк ці Лукомль.

У знак заслуг перад горадам у 2014 г. у Віцебску быў узведзены помнік вялікаму князю. Вышыня скульптуры — 3,6 м, пастамента — 2,8 м. Вага — 3,2 тоны, з іх 2,9 — бронза. Скульптар — Сяргей Бандарэнка.

Альгерд пражыў больш за 80 гадоў. Нават па сучасных мерках гэта шмат, а ў часы сярэднявечча, калі сярэдняя працягласць жыцця складала пад 30 гадоў, ён быў доўгажыхаром. 32 гады Альгерд правіў Вялікім Княствам Літоўскім (1345–1377), а Віцебскам — усе 57 гадоў!

Ад дзвюх жонак — Марыі і Ульяніі Цвярской — князь меў 7 дачок і 12 сыноў, у тым ліку Андрэя Полацкага, Свідрыгайлу, Скіргайлу, Уладзіміра, якія адыгралі значную ролю ў гісторыі Усходняй Еўропы, а Ягайла стаў заснавальнікам дынастыі Ягелонаў.

Б

# Славянскі базар



Летні амфітэатр — галоўная пляцоўка фестывалю «Славянскі базар»

Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» — тое, з чым у першую чаргу атаясамляецца горад над Дзіной у вялікай колькасці людзей па-за яго межамі. Унутранае значэнне падзеі таксама істотнае. Нават калі які-небудзь жыхар кожны год з'язджае ў «базарны» ліпеньскі тыдзень чым далей з горада, уплывы фестывалю ён не можа не заўважыць.

«Славянскі базар» стаўся віцебскім горадаўтваральным святам. Фраза «зрабілі пад "славянку"» шчыльна ўвайшла ў віцебскі народны слоўнік. Хаця важней уплыў фестывалю не ў эканамічным, а ў брэндавым сэнсе, бо падзея зрабіла вялізны ўнёсак у вобраз горада як культурніцкай сталіцы Беларусі. «Славянскі базар» — гэта ж нібыта пра мастацтва. Прынамсі з яго ўсё пачыналася.

У 1988 г. Віцебск прымаў «Усесаюзны фестываль польскай песні». Свята мусіла праводзіцца раз на два гады, але наступнае было апошнім. Калі СССР ужо «перастаў існаваць як геапалітычная рэальнасць», у Маскве непадалёку ад рэстарацыі «Славянскі базар» культарганізатары прыдумляюць новую падзею. Назва спадабалася не ўсім. Напрыклад, Ігар Лучанок пастфактум прапаноўваў «Беларускую талаку». Не выстаяла і найменне «Славянскі кірмаш», якім карысталіся ў беларускіх выданнях у першы фестывальны год.

Шмат чаго не засталося з тых першых святаў. Напрыклад, асобныя дні культур для розных славянскіх народаў. Сёння многія віцябляне памятаюць пра канцэрты Украіны ці Расіі, бо яны зніклі нядаўна. А некалі праводзіліся яшчэ і балгарскі дзень, і польскі. З гадамі знікла народная стыхія, калі віцябляне, седзячы ля абрусоў на кожным кутку, стваралі свой уласны «базар». Турнікеты, асабісты дагляд, абмежаваны алкаголь і новыя каштоўнасці мідл-класа пакрысе выціснулі гэтыя вясковыя па сваёй сутнасці традыцыі.

Але шмат што і выстаяла. Напрыклад, ядро, вакол якога фармаваўся яшчэ фестываль польскай песні. Гэтае ядро не амфітэатр, а конкурс маладых выканаўцаў. З эстраднага трампліна пад віцебскім небам стартавалі Таісія Павалій, Дыяна Гурцкая, Руслана, Пётр Ялфімаў, Паліна Смолава, Гюнэш і шмат іншых цяпер вядомых ці нават падзабытых выканаўцаў. Захавалася і традыцыя «перарэзанай стужкі». Пад фестывальную нагоду ў Віцебску адкрывалі помнікі Еўдакіі Лось і Уладзіміру Караткевічу, музей-сядзібу Рэпіна і адрамантаваную радзільню, мемарыяльныя шыльды Нікіфароўскаму, Краснянскаму, УНОВІСу і цэлы праспект Перамогі.

«Славянскаму базару» цяжка не змяняцца ў такім зменлівым свеце. Не зусім відавочна, але з года ў год з'яўляюцца новыя формы, змяняюцца акцэнты і ўстаноўкі. З апошніх — кірунак на самаакупнасць, змяншэнне агульнаславянскай рыторыкі, спробы шчыльней працаваць з нефармалізаванымі ініцыятывамі. Такім чынам, Віцебск чакаюць новыя фестывальныя старонкі ці нават главы.

В

# Віцьба



Рэчышча Віцьбы ў цэнтры Віцебска

Віцьба — невялікая на сённяшні дзень рачулка, што, як і Лучоса, упадае ў Заходнюю Дзвіну на тэрыторыі горада. Згодна з традыцыяй, менавіта ад Віцьбы паходзіць назва горада — Віцебск. Агульная працягласць ракі каля 33 км, з іх амаль 5 км у межах горада. Праз Віцьбу перакінуты 3 аўтамабільныя масты і 2 пешаходныя.

Якога-небудзь значнага эканамічнага значэння рака не мела ніколі. Лічыцца, што за апошняе стагоддзе колькасць вады ў ёй зменшылася. Адны звязваюць гэта з распрацоўкай даламітавых кар'ераў у ваколіцах Рубы, другія — з меліярацыяй, іншыя прыводзяць свае аргументы.

Новае жыццё Віцьба атрымала пасля вялікіх работ па ачыстцы яе рэчышча і добраўпарадкаванні берагоў ад спартыўнай пляцоўкі Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа да моста Баўмана. Зона адпачынку з лыжаролернай трасай, пляцоўкай для пляжнага валейбола, магчымасцю пакатацца на катамаранах, лодках і веласіпедах хутка знайшла сваіх прыхільнікаў. Тым больш што гэта, бадай, адзінае такое «зялёнае» месца не на ўскрайку горада. Дамова «сустрэнемся на Віцьбе» сёння абазначае спатканне менавіта ў гэтай зоне адпачынку.

Значная колькасць людзей не стала вялікай перашкодай для качак, якія гнездаваліся ўздоўж ракі і раней. Цяпер яны таксама неад'емная частка мясцовага каларыту. Адпачынак на Віцьбе быў пэўны час каменем спатыкнення прыхільнікаў здаровага ладу жыцця і заўзятараў недарагіх алкагольных вечарын. Звароты да гарадскіх улад пакуль прыносілі перамогу першым.

Віцьба ўплялася ў палатно горада. Цяпер гэта яшчэ і назва буйнога кандытарскага камбіната, які быў заснаваны ў 1989 г. і на сённяшні дзень з'яўляецца лідарам у Беларусі па вытворчасці сухіх снеданкаў. Таксама тут вырабляюць вялікі асартымент вафляў, вафельных трубачак, рулетаў, тартоў і пячэння. Дзякуючы прадпрыемству для большасці жыхароў Беларусі Віцьба — гэта глазураваны вафельны батончык з чатырма рознымі смакамі. Ён з'яўляецца неад'емным атрыбутам асартыменту ў цягніках віцебскага пасажырскага ўчастка.



Г

# Губернатарскі палац



Былы сядзібны дом шляхцічаў Кудзіновічаў. У часы Расійскай імперыі – губернатарскі палац

Будынак былога губернатарскага палаца — адзін з самых вядомых архітэктурных помнікаў у Віцебску. Яго гісторыя пачалася ў 1772 г., калі на высокім беразе Дзвіны быў узведзены сядзібны дом шляхцічаў Кудзіновічаў. Пазней будынак выкарыстоўваўся для патрэб дваранскага сходу, а ў 1806 г. быў набыты губернскім казначэйствам і перабудаваны ў палац губернатара. Праз пяць гадоў да яго з поўдня быў прыбудаваны двухпавярховы службовы корпус, які разам з палацам утварыў амаль замкнёны ўнутраны двор. У галоўным корпусе знаходзіліся службовыя і жылыя памяшканні губернатара, у службовым — праўленне і канцылярыя губернатара, зала для правядзення розных мерапрыемстваў, царква.

Пасля таго, як Віцебск стаў цэнтрам губерні (1802 г.), у палацы жылі віцебскія генерал-губернатары і губернатары з сем'ямі, у тым ліку Аляксандр Вюртэмбергскі, брат жонкі расійскага імператара Паўла I (з 1811 г.), Павел Сумарокаў, літаратар (з 1807 па 1812 гг.), Афанасій Радзішчаў, сын пісьменніка Аляксандра Радзішчава (у 1847–1848 гг.). У 1853–1854 гг. палац наведваў рускі пісьменнік Іван Лажэчнікаў, які выконваў у той час абавязкі віцебскага віцэ-губернатара.

У 1812 г. у губернатарскім палацы амаль два тыдні жыў французскі імператар Напалеон Банапарт, які спачатку вырашыў спыніцца ў Віцебску і скончыць ваенную кампанію 1812 г., але потым змяніў рашэнне і рушыў на Маскву. У 1814 г. у палацы некалькі разоў бывала знакамітая кавалерыст-дзявіца Надзея Дурава. Летам 1831 г. у будынку жыў вялікі князь Канстанцін Паўлавіч, брат расійскага імператара Мікалая I. У Віцебску вялікі князь захварэў на халеру і ў хуткім часе памёр.

Падчас знаходжання ў губернатарскім палацы Напалеона Банапарта перад будынкам па загадзе французскага імператара была ўтворана плошча, якая пазней стала адной з самых прывабных у Віцебску. Некалі яе ўпрыгожвалі фантан, кветнікі, лаўкі, а з 1912 г. — велічны помнік героям вайны 1812 г.

У савецкія часы ў будынку размясціліся органы новай улады: Віцебскі камітэт РСДРП(б), Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, губернскі выканаўчы камітэт. У 1918–1919 гг. у якасці ўпаўнаважанага па справах мастацтва Віцебскай губерні будынак неаднаразова наведваў мастак Марк Шагал.

На працягу 1920–1930-х гг. будынак, як і раней, выконваў адміністрацыйныя функцыі: тут размяшчаўся гарсавет з рознымі аддзеламі, абласны аддзел НКУС, крымінальны вышук, абласное ўпраўленне міліцыі. Падчас нямецка-фашысцкай акупацыі помнік архітэктуры XVIII стагоддзя быў пашкоджаны. Пасля вызвалення Віцебска ў ходзе аднаўленчых работ існавала ідэя адкрыць тут Дом вучоных, але ў хуткім часе будынак быў зноў заняты службамі КДБ, якія размяшчаюцца тут і зараз. Плануецца, што пасля таго, як установа пераедзе ў новыя памяшканні на вул. Калініна, у былым палацы будзе створаны музейны комплекс.

Д

# Дзвіна



Рака Дзвіна ў цэнтры Віцебска

Дзвіна (яна ж Заходняя Дзвіна, Танаіс, Турунтус, Эрыдан, Віна) — галоўная водная артэрыя горада, без якой немагчыма ўявіць наш Віцебск. Агульная працягласць ракі больш за 1 тыс. км, з іх каля 15 км прыпадае на Віцебск. Яе рэчышча тут утварае своеасаблівую падкову, што вызначыла напрамкі і характар гарадской забудовы. На тэрыторыі горада праз Дзвіну перакінуты тры аўтамабільныя масты і плануецца будаўніцтва яшчэ аднаго.

З даўніх часоў рака выкарыстоўвалася як частка гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі». Да з'яўлення чыгункі асноўныя перавозкі мясцовых тавараў у прыбалтыйскія губерні Расійскай імперыі ажыццяўляліся на стругах, шхунах, барках, лайбах і плытах па Дзвіне. У 1833 г. з Віцебска па ёй прайшло больш за 3 300 такіх прыстасаванняў, якія перавезлі грузаў амаль на 20 млн рублёў. Пазней эканамічная роля ракі знізілася.

Са студзеня 1895 г. у Віцебску пачаў працаваць водаправод, які першапачаткова браў ваду непасрэдна з Дзвіны. У савецкі перыяд для гэтых мэтаў былі прабураны спецыяльныя свідравіны.

Высокія берагі Дзвіны баранілі горад ад вялікіх паводкаў, а таму сур'ёзных нараканняў на раку ў гараджан ніколі не было. У апошнія дзесяцігоддзі яна выкарыстоўваецца пераважна ў рэкрэацыйных мэтах. Добраўладкаваная набярэжная з'яўляецца адным з любімых месцаў для шпацыра. З 2010 г. віцябляне і госці горада робяць невялікія водныя падарожжы на цеплаходзе «Віцебск». Маршрут урачыста адкрылі 9 кастрычніка. Пазней цеплаходаў стала два, але ў 2015 г. па прычыне значнага падзення ўзроўню вады навігацыю спынілі.

Будаўніцтва Віцебскай ГЭС непазбежна пацягне за сабой змены ў жыцці ракі, аднак, нягледзячы ні на што, яна застанецца адной з галоўных візітных картак горада.

«Дзвіна» — гэта яшчэ і назва вядомай з падручнікаў па гісторыі ільнопрадзільнай фабрыкі, што пачала сваю дзейнасць у Віцебску ў раёне Маркаўшчыны ў 1900 г. і стала адным з буйнейшых прадпрыемстваў на беларускіх землях. У 1946 г. фабрыку ператварылі ў Віцебскі дыванова-плюшавы камбінат.

Яшчэ «Дзвіна» — невялікая бюджэтная гасцініца для, як пішуць у сеціве, непатрабавальных людзей. Месціцца яна непадалёк ад Кіраўскага моста.

Е

# Елагі



Забудова ў раёне Елагаў

Елагі — гістарычны раён у заходняй частцы горада ў Чыгуначным раёне. Сфармаваўся ў другой палове XIX ст. вакол аднайменнага фальварка, які знаходзіўся на месцы Віцебскага абласнога клінічнага спецыялізаванага цэнтра. Галоўныя вуліцы мікрараёна — Някрасава і Ляонава. З усходу Елагі абмежаваны чыгункай, а з захаду — лесапаркам Юр'ева горка (які таксама часам называюць Елагамі).

Галоўнай выбітнасцю мікрараёна з'яўляецца Парк культуры і адпачынку чыгуначнікаў (былы Елагскі сад). Ён быў закладзены яшчэ ў пачатку XIX ст. і з'яўляўся прыватным уладаннем. Пры гэтым у сад мог патрапіць любы жадаючы, бо ягоныя гаспадары не клапаціліся пра рамонт парканаў. Часам для багатых месцічаў тут ладзіліся забавы: запускаліся феерверкі, паветраныя шары, выступалі акрабаты і інш. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Елагскі сад быў нацыяналізаваны і пераназваны ў Сад Камуны. Таксама некаторы час парк насіў імя Лазара Маісеевіча Кагановіча — савецкага партыйнага дзеяча. Сучасную назву сад атрымаў у 1940-я гг.

Прыкладна ў 1920-я гг. на тэрыторыі парку быў створаны першы ў горадзе летні спартыўны комплекс, нашчадкам якога з'яўляецца сучасны спарткомплекс «Лакаматыў». Плошча парку — 2,5 га. Тут высаджана каля 300 дрэў і кустоў розных парод (ясень звычайны, вярба белая, бяроза пушыстая, таполя канадская, клёны чырвоны і вастралісты, бэз і інш.). Цікавасць выклікае сімбіёз таполі і каштана (ствол каштана расце са ствала таполі). У цэнтры парку размешчана сажалка. У парку ўладкаваны вячэрняе асвятленне, гульнявыя пляцоўкі, бегавыя дарожкі, лавы-арэлі, альтанкі, летнія эстрады.

Захаваліся ў мікрараёне Елагі і асобныя дарэвалюцыйныя будынкі. Сярод іх асабліва вылучаецца дом № 35 на вул. Бумагіна (былы 2 і Елагскі завулак, 12), які непасрэдна звязаны з рэвалюцыйнымі падзеямі ў Віцебску. Рэч у тым, што тут месціўся бальшавіцкі Латышскі клуб, дзе 20 чэрвеня 1917 г. адбыўся першы збор бальшавікоў Віцебска, на якім была афармлена самастойная гарадская бальшавіцкая арганізацыя. У гонар гэтай падзеі на будынку клуба ў 1963 г. была ўсталявана мемарыяльная дошка.

Рэлігійных пабудоў у мікрараёне дзве: грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква Уваскрасення Хрыстова і праваслаўная царква Святога Апостала Лукі. Абодва храмы былі перабудаваныя са свецкіх будынкаў у пачатку 2000-х гг.: уніяцкая царква — з жылога дома, а праваслаўная — з шахматна-шашачнага клуба.

Мікрараён хавае шмат іншых цікавостак, якія з лёгкасцю знойдзе ўважлівы вандроўнік: віядук над чыгункай, з якога можна назіраць за рухам цягнікоў, старыя будынкі (у тым ліку дом, дзе жылі нашчадкі Хрысціяна Бразі, гасцініца якога адыграла пэўную ролю ў каханні Марка Шагала і Бэлы Разенфельд), рэшткі рэтратрамвая, які зараз выконвае ролю электрычнай падстанцыі... А галоўнае — тут можна адчуць спецыфічную віцебскую атмасферу, якую адлюстроўвалі на сваіх карцінах і гравюрах віцебскія мастакі ў пачатку XX ст.

Ё

# Чарцёж горада Віцебска 1664 года



Чарцёж горада Віцебска 1664 года

З'яўленне «Чарцяжа горада Віцебска» 1664 г. звязана з падзеямі вайны 1654–1667 гг. паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай. Ужо на самым яе пачатку рускі ваявода Васіль Пятровіч Шарамецеў скіраваў свае войска да Віцебска і распачаў аблогу замка. Віцяблянам прыйшлося нялёгка. Паводле сведчанняў сучасніка, горад асаджалі «20 тысяч маскавітаў з 20 гарматамі». Абаронцы віцебскай крэпасці стрымлівалі жорсткую аблогу больш за тры месяцы — на працягу 14 тыдняў. 22 лістапада 1654 г. Віцебск быў захоплены. Пераможцы разбурылі замкі, узялі з горада вялікую кантрыбуцыю, палонных выслалі ўглыб Расіі, за Волгу і ў Сібір. Тыя, хто застаўся ў горадзе, вымушаны былі прысягнуць на вернасць маскоўскаму цару. На акупаваных землях была пастаўлена расійская ваенная адміністрацыя на чале з ваяводамі.

У гэты час у Віцебску пачалося аднаўленне і рэканструкцыя разбураных замкавых умацаванняў. Замкі аднаўляліся з дрэва, і апроч новых бярвенняў і брусоў для будаўніцтва выкарыстоўвалі матэрыял умацаванняў замка ў Суражы, які сплаўлялі па Дзвіне. У 1664 г. праца была скончана і ваявода Віцебска князь Якаў Валконскі адаслаў цару Аляксею Міхайлавічу ў Маскву складзены па загадзе апошняга «Чарцёж горада Віцебска» — план умацаванняў, на якім у выглядзе своеасаблівага перспектыўнага малюнка былі пазначаны найбольш значныя гарадскія аб'екты і вежы трох замкаў — Верхняга, Ніжняга і Узгорскага.

На «Чарцяжы» бачна, што ў Віцебску існавалі тры аўтаномныя крэпасці, звязаныя паміж сабою брамамі. Вялікі ўплыў на фарміраванне планіровачнай структуры фартэцыі аказала гідралагічная сістэма, якая ўключала рэкі Дзвіну і Віцьбу, а таксама Замкавы (ці Пілатаў) ручай. Верхні і Ніжні замкі, абведзеныя вадой, займалі астраўное становішча, Узгорскі замак з трох бакоў быў абнесены сценамі з 12 вежамі. Усе разам віцебскія замкі мелі 33 вежы — 7 праезных брамаў, 22 глухія вежы, 2 веснічкі і 2 бычкі (у гэты час самы вялікі пасля віцебскага полацкі замак меў толькі 13 вежаў).

Апроч вежаў, на «Чарцяжы» былі змешчаны выявы культавых будынкаў, а таксама розныя тыпы жылой забудовы — ад дамоў простых месцічаў да жылля шляхты.

На пачатку XX ст. «Чарцёж» знайшоў у Маскве ў архіве Міністэрства замежных спраў даследчык віцебскай даўніны А. П. Сапуноў. Ён выдаў яго разам з падрабязным апісаннем усіх вежаў асобнай кніжкай у 1910 г.

Ж

# Журжава



Памятны знак у гонар 39-га авіяпалка ў раёне Журжава

Добра, што назва Журжава не засталася ў мінуўшчыне, як многія іншыя тапонімы Віцебска. У пачатку мінулага стагоддзя тут, каля дарогі, што вядзе ў горад, быў фальварак Э. Самовіча і вёсачка ў некалькі двароў. Маёнтак размяшчаўся ў маляўнічым месцы на пагорку, з вышыні якога былі бачныя не толькі навакольныя лясы, гаі і шматлікія вёскі. Таксама адсюль, адразу за паваротам гасцінца, перад вандроўнікам, які ехаў з Суража, Смаленска ці Санкт-Пецярбурга, раптам адкрываўся Віцебск з вежамі храмаў у блакітнай смузе. Да гарадскіх цэркваў было амаль 4 вярсты, але ў ціхае надвор'е іх званы чуліся й тут. Прамая дарога на горад паступова ператваралася ў вуліцу з высаджанымі па краях таполямі.

Аб паходжанні слова Журжава можна толькі гадаць. З такой жа назвай ёсць горад у Румыніі, дзе ў 1772 г. было падпісана перамір'е паміж Расіяй і Турцыяй. Тапонім Журжава, або Журжа (Джуржду), верагодна, мае цюркскія карані.

Дзякуючы геаграфічнаму размяшчэнню маленькі населены пункт, нават не адзначаны на старых картах, пасля рэвалюцыі становіцца цэнтрам саўгаса. Сваю ролю ў развіцці Журжава адыграла і цагляная вытворчасць, якая недалёка ад гэтага месца існавала здаўна. Але паўсаматужныя цагляныя заводзікі пасля вайны ператвараюцца ў флагман віцебскай індустрыі — камбінат будаўнічых матэрыялаў. Сярод рэалій тых гадоў — і нямецкія палонныя, якія працавалі на будаўніцтве гэтага камбіната, і былая вясковая моладзь, якая абжывала прамысловыя ўскраіны горада.

Журжава патроху забудоўваецца, а з 1967 г. становіцца паўнавартаснай часткай Віцебска. Раён звязваецца з цэнтрам трамвайным маршрутам. Абавязковым удзельнікам, а магчыма, і галоўным героем нашага аповеду пра Журжава мог бы стаць і той краявід, які адкрываецца з журжаўскага ўзгор'я. Напэўна, менавіта таму ў свой час было вырашана ў гэтым раёне паставіць царкву з высокай званіцай. Аднак працэс будаўніцтва запаволіўся.

Прайшло толькі стагоддзе — і незвычайная назва маленькага маёнтка пана Самовіча стала адным са шматаблічных сімвалаў Віцебска. Сёння Журжава — гэта насамперш гарадскі раён з аднайменнай вуліцай Журжаўскай. Але гэта і аэрадром, цяпер закінуты, дзе з 1946 па 1996 гг. базіраваўся полк ваенна-транспартнай авіяцыі, і нават вадаём, дзе гняздуюцца птушкі з «Чырвонай кнігі».

Некалькі гадоў таму на самым версе тарцовай сцяны 9-павярхоўкі, звернутай да горада, хтосьці накрэсліў фарбай вялізны надпіс «Журжава». Надпіс красаваўся даволі доўга, пакуль камунальныя работнікі яго не зафарбавалі. Не будзем рабіць высноваў ні пра патрыятызм мясцовай моладзі, ні пра яе альпінісцкія здольнасці, а толькі проста канстатуем гэты факт.

3

# Замкі Віцебска




Графічная рэканструкцыя віцебскіх замкаў XIV ст. Мастак Ігар Дураў

Віцебскія замкі адыгралі важную ролю ў гісторыі горада. Можна вызначыць некалькі ўмоўных перыядаў у развіцці замкаў Віцебска: замак Вольгі, замак Васількі, замкі Альгерда, замкі XVII ст.

Паводле легенды, першы віцебскі замак заснавала княгіня Вольга ў 974 г. Аднак гэтая легендарная падзея згадваецца толькі ў «Віцебскім летапісе». Як існуючы горад Віцебск упершыню ўпамінаецца ў 1021 г. І замак тады таксама быў. Драўляны, ён стаяў на гары, якая называлася Ламіха, ці Замкавая. Цяпер на месцы гары знаходзяцца будынкі тэатра «Лялька», Мастацкага музея, Віцебскага гарвыканкама.

Час ішоў, Віцебск стаў цэнтрам незалежнага княства. На пачатку XII ст. віцебскі князь Васілька Святаслaвіч узвёў новы драўляны замак. Тэрыторыя дзядзінца абносіцца земляным валам, вышыня якога дасягала 8 м, а шырыня — 36 м. Наверсе вала былі збудаваны драўляныя сцены, вежы і паркан.

У 1320 г. уладаром Віцебска становіцца князь Альгерд, горад уваходзіць у склад ВКЛ. Тут прайшлі 25 гадоў княжання Альгерда (1320–1345), а пазней, калі ён становіцца вялікім князем літоўскім, горад часта адыгрываў ролю своеасаблівай сталіцы дзяржавы падчас войнаў з Вялікім Княствам Маскоўскім. Менавіта пры Альгердзе горад становіцца важным ваенным і адміністрацыйным фарпостам дзяржавы ва ўсходнім вектары палітыкі ВКЛ. Новай ролі, якую пачынае адыгрываць Віцебск у знешняй палітыцы ВКЛ, мусілі адпавядаць і ўмацаванні горада. У 1330-я гг. Альгердам у Віцебску будуюцца два каменных замкі, якія практычна былі першымі абарончымі збудаваннямі такога тыпу ва Усходняй Беларусі.

Будаўніцтва вялося доўга і скончана толькі каля 1351 г. другой жонкай Альгерда — Ульянай, бо сам Альгерд быў у Вільні. Чаму так доўга? Па-першае, замкі будаваліся з каменю, што на тыя часы было вельмі дорага і складана. Па-другое, будаваліся адразу два замкі — Верхні (Горні) і Ніжні (Дольны). Верхні замак меў 6 вежаў, Ніжні — 10. Агульная даўжыня мураваных умацаванняў дасягала 1750 м. Муры замка былі зроблены з валуновых камянёў. Таўшчыня муроў залежала ад той мясцовасці, дзе яны пракладваліся. На небяспечных месцах яна складала 3,2 м, на добраўмацаваных — 1,6 м.

Замкі Віцебска, як прывід. Амаль усе ведаюць, што яны былі, але ніхто іх не бачыў. Толькі дзякуючы энергіі, фантазіі і ўяўленню мастака Ігара Дурава ў нас ёсць магчымасць паглядзець на варыянт рэканструкцыі замкаў XIV ст. У выставачным цэнтры «Духаўскі круглік» можна ўбачыць падмурак Рарожнай вежы XIV ст. А вось уявіць, як выглядалі віцебскія замкі XVII ст., пабудаваныя па загадзе рускага цара Аляксея Міхайлавіча, мы можам дзякуючы «Чарцяжу горада Віцебска 1664». На малюнку добра бачны сцены, вежы, цэрквы, манастыры, дамы шляхты, млыны, ратуша, нават багадзельня і турма. Вежы падпісаны: Духаўская, Тарапецкая, Суражская, Сярэдняя, Прыдзвінская, Храпавіцкая і іншыя. Праўда, Верхні, Ніжні і Узгорскі замкі ўжо драўляныя.

Канчаткова замкі як абарончыя збудаванні перасталі існаваць пасля падпалу горада, здзейсненага ў 1708 г. па загадзе рускага цара Пятра І. Пасля пажару 1757 г. рэшткі ўмацаванняў больш не аднаўляліся.

# IFMC




Канцэртная зала «Віцебск» — галоўная пляцоўка фестывалю IFMC

Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі, International Festival of Modern Choreography (IFMC) штогадова праводзіцца ў Віцебску з 1987 г. Аўтар ідэі і канцэпцыі фестывалю, яго нязменны дырэктар — Марына Раманоўская. Удзел у першым форуме прыняла савецкая моладзь з розных куткоў краіны. Пачынаючыся фактычна як фестываль моднага на той момант брэйк-данса, IFMC даволі хутка трансфармаваўся, развітаўся з андэграўндам на карысць разнастайнасці жанраў, больш вытанчанай эстраднай, а часам і экзатычнай стылістыкі.

У фестывалі выступаюць у якасці гасцей і ўдзельнічаюць у конкурсе аматарскія і прафесійныя калектывы сучаснай

харэаграфіі з розных краін свету. Фестываль з'яўляецца эксперыментальным полем для апрабацыі новых ідэй і школай для маладых харэографаў і танцораў. Асноўнай пляцоўкай для правядзення фестывалю служыць канцэртная зала «Віцебск».

Галоўнай падзеяй IFMC з'яўляецца міжнародны конкурс, па ўмовах якога ўладальнікам гран-пры можа стаць не проста выбітны харэаграфічны твор, але і ўпершыню прадстаўлены ў Віцебску. Удзельнікаў ацэньвае міжнароднае журы.

За перыяд існавання фестывалю ў ім прынялі ўдзел сотні праектаў, кампаній танца, груп сучаснай харэаграфіі, тэатраў і студый, харэаграфічных калектываў, тысячы харэографаў і танцораў з 40 краін свету, сярод якіх Аўстрыя, Беларусь, Вялікабрытанія, Германія, ЗША, Ізраіль, Італія, Кітай, Латвія, Літва, Польшча, Расія, Украіна, Фінляндыя, Францыя, Швецыя, Эстонія, Японія і інш.

За часы існавання фестывалю ў конкурсе прыняло ўдзел нямала выхаванцаў віцебскай школы харэаграфіі: Тэатр-студыя сучаснай харэаграфіі Дыяны Юрчанка, праект Марыны Кушняровай «Свой почырк», студыя сучаснага танца «Паралелі» Анастасіі Махавай, харэаграфічны калектыў Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава, ансамбль Віцебскай вучэльні мастацтваў.

З 1992 г. у праграме фестывалю прадстаўлена праца даследчыцкай лабараторыі секцыі крытыкаў, у якой працавалі вядомыя балетныя крытыкі, навукоўцы, музыказнаўцы з розных краін, якія вывучалі і абмяркоўвалі заканамернасці сучаснага харэаграфічнага працэсу.

У межах фестывалю спаборніцтва праводзіцца па асобных намінацыях: «Выканальніцкае майстэрства», «Артыстызм», «Пастскрыптум», «Харэограф». Існуюць спецыяльныя прызы, дыпломы і прэміі дырэкцыі фестывалю, журы, экспертнага савета: «За сэнсавае напаўненне танца», імя Яўгена Панфілава лепшаму харэографу конкурсу, «За таленавіты дэбют», «За ўнёсак у развіццё беларускага contemporary dance», «За ўвасабленне ў танцы гістарычнай памяці» і інш.

Праграма фестывалю традыцыйна завяршаецца гала-канцэртам. На ім агалошваюцца імёны лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу IFMC і ўручаецца гран-пры — грашовая прэмія і галоўны прыз фестывалю, які ўяўляе сабой металічную пласціну з паліраванай латуні з малюнкам ратушы і сімволікай IFMC, дызайн якога распрацаваны віцебскім мастаком Сяргеем Бабурам.

Дзякуючы фестывалю Віцебск даўно прызнаны адным з цэнтраў айчыннага contemporary dance, а віцебскі глядач можа ўбачыць тое, што актуальна сёння ў Еўропе, у свеце. Фестываль адыграў важную ролю ў станаўленні айчыннай харэаграфіі, спрыяў засваенню агульнасусветнага вопыту.

Й

# Мінай Шмыроў



Музей і помнік Мінаю Шмырову ў Віцебску

Удзельнік Першай сусветнай вайны, Грамадзянскай, камандзір 14-га чырвонапартызанскага атрада па барацьбе з бандытызмам на тэрыторыі Суражскага павета, камандзір першага на тэрыторыі Віцебскай вобласці партызанскага атрада і 1-й Беларускай партызанскай брыгады ўжо ў гады Вялікай Айчыннай вайны — усё гэта адносіцца да аднаго чалавека. Партызаны і беларускі народ звалі яго Бацька Мінай.

Нарадзіўся Мінай Піліпавіч Шмыроў 23 снежня 1891 г. у в. Пунішча Веліжскага павета Віцебскай губерні (зараз тэрыторыя Віцебскага раёна). У арміі з 1913 г. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. праводзіў рэвалюцыйную агітацыю сярод салдат, член салдацкага камітэта. З 1918 г. у Чырвонай арміі. Удзельнік баёў супраць войск Краснова, Карнілава, Юдзеніча. З 1923 г. загадчык валаснога зямельнага аддзела, старшыня калгаса, дырэктар льнозавода, кардоннай фабрыкі імя Вароўскага ў Суражскім раёне Віцебскай вобласці.

Ужо 9 ліпеня 1941 г., у самыя першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, Шмыроў арганізаваў з рабочых фабрыкі першы ў вобласці партызанскі атрад, які з красавіка 1942 г. дзейнічаў у складзе 1-й Беларускай партызанскай брыгады. У красавіку — лістападзе 1942 г. ён сам быў камандзірам гэтай брыгады. Партызаны супольна з часткамі 4-й Ударнай арміі абаранялі «Віцебскія вароты», наносілі ўдары па чыгуначных, шасэйных дарогах і воднай камунікацыі на Віцебшчыне, грамілі варожыя гарнізоны, узрывалі масты і склады, пускалі пад адхон эшалоны праціўніка. Спрабуючы захапіць партызанскага кіраўніка, гітлераўцы ў кастрычніку 1941 г. узялі закладнікамі чатырох яго дзяцей і сястру. 14 лютага 1942 г. пасля чатырох месяцаў пакут у фашысцкіх засценках дзеці былі расстраляныя. З лістапада 1942 г. Мінай Шмыроў — у Цэнтральным штабе партызанскага руху. 15 жніўня 1944 г. за мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, яму было нададзена званне Героя Савецкага Саюза.

Аднак і ў пасляваенны час Шмыроў актыўна працаваў. Яго прызначаюць загадчыкам абласнога аддзела дзяржаўнага забеспячэння, які займаўся пытаннямі сем'яў партызан, вайскоўцаў Чырвонай арміі і забеспячэннем тых людзей, хто вяртаўся з акупаванай тэрыторыі.

З'яўляючыся з 1947 па 1963 гг. дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, М. Шмыроў шматразова атрымліваў лісты грамадзян, якія звярталіся па дапамогу. І на ўсе гэтыя лісты былы партызан адказваў, стараўся дапамагчы.

Мінай Шмыроў памёр 3 верасня 1964 г. Пахаваны на вайсковых могілках на Успенскай горцы ў самым цэнтры Віцебска. Шмыроў пражыў 72 гады, і за гэты час на яго долю выпала шмат выпрабаванняў — смерць родных у 1920-я гг. ад рук бандытаў, нямецкая аблава ў снежні 1941 г., расстрэл дзяцей у лютым 1942 г., цяжкая хвароба горла. Нягледзячы на ўсе складанасці ў жыцці, Мінай Шмыроў заставаўся чалавекам з вялікай літары, блізкім і родным для вялікай колькасці людзей, якія і пасля вайны, сустракаючы героя на вуліцах горада, называлі яго проста — Бацька Мінай.

К

# Кіраўскі мост



Кіраўскі мост цераз Дзвіну

Наяўнасць ракі і яе значэнне для жыцця любога горада заўсёды велізарна. Але яшчэ больш вялікае значэнне ў моста, які злучае падзеленыя вадой гарадскія берагі. Час, жыццё і ціхія воды Дзвіны цякуць вечна. Плынь ракі ў межах Віцебска накіравана на поўдзень, заўсёды да сонца, заўсёды да светлых і радасных даляў. Плывучы па цячэнні, людзі на барках, стругах і плытах кожны раз сустракалі за лукавінай ракі горад на фоне прамяністага неба. І аднойчы ў промнях сонца паўстаў, як міраж, прыгажун-мост. Гэта адбылося ў 1867 г., пасля пяці гадоў будаўніцтва. Менавіта ў гэты момант заканчваецца гісторыя часовых драўляных пераправаў цераз раку і пачынаецца гісторыя пастаяннага каменнага моста ў нашым горадзе.

Сапраўднае развіццё Віцебска ў XIX ст. пачалося пасля таго, як амаль аднachасова да горада была пракладзена чыгунка, пабудаваны вакзал і ўзведзены Дзвінскі мост. Хоць, мабыць, толькі мост стаў і сімвалам Віцебска, і самай любімай канструкцыяй у гараджан. Сёння дадалі б: і самай знакавай. Бо гэта быў знак надыходзячага прагрэсу. Не злічыць фотакартак і старых паштовак, на якіх адлюстраваны гэты мост. Зрэшты, як і фатаграфій, знятых з вышыні яго пралётаў. Па ўсім відаць — віцяблянам ён падабаўся. Асабліва ўражвалі абліцаваныя гранітнымі блокамі апоры з вялізнымі вадарэзамі.

Праіснаваў Дзвінскі мост амаль 80 гадоў, у 1944 г. ён быў знішчаны падчас вызвалення горада. Кіраўскі мост, які з'явіўся на месцы ранейшага і які яму ўспадкоўваў, быў узведзены ў 1955 г. Будаваўся мост — і адначасова адбудоўваўся спустошаны вайной Віцебск. Аднак праекты і новага моста, і новага Віцебска ўвасабляліся ў жыццё архітэктарамі паводле канцэпцыі ўзорнага сацыялістычнага горада.

Кіраўскі мост па ўсіх параметрах пераўзыходзіў свайго папярэдніка. Ён яшчэ вышэй падняўся над дзвінскімі берагамі. Разам з узведзенай у стылістыцы сталінскай неакласікі шырачэзнай вуліцай Кірава мост стаў эмблемай пасляваеннага аднаўлення горада. Але яго будаўніцтва вялося так доўга, што ў тыя гады нават з'явіўся анекдот: «— Якая рака самая шырокая ў свеце? — Заходняя Дзвіна. Мост цераз яе ўжо 10 гадоў будуюць».

Кіраўскі мост, безумоўна, твар сённяшняга Віцебска і яго сімвал. За яго чыгуннымі агароджамі адкрываецца самая прыгожая панарама. Ён у вечным руху, ён павольна плыве міма ракі. І гэты сімвал ужо даўно сягнуў за межы ўнутранай віцебскай (с)вядомасці, хаця б таму, што яго выяву адлюстравалі на грашовай банкноце.

Л

# Беларускі тэатр «Лялька»



Будынак тэатра «Лялька»

Беларускі тэатр «Лялька» быў створаны ў 1985 г. як лялечная трупа пры Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры імя Якуба Коласа. 20 красавіка 1986 г. адбылася першая прэм'ера калектыву — спектакль «Дзед і Жораў» Віталя Вольскага. Гэты дзень традыцыйна святкуецца як Дзень нараджэння «Лялькі». Пэўны час тэатр не меў уласнай сцэнічнай пляцоўкі, і толькі ў 1991 г., вылучыўшыся ў асобны тэатральны калектыў, трупа атрымала будынак у цэнтры горада — помнік архітэктуры канца XIX — пачатку XX ст.

Ад самага пачатку сваёй творчай дзейнасці «Лялька» заявіла аб сабе як тэатры высокай сцэнічнай культуры, што дорыць дзецям хараство, магію і чарадзейства тэатральнага відовішча. Паступова трупа здабыла любоў не толькі віцебскай публікі. Сёння тэатр вядомы далёка за межамі горада і краіны. На рахунку «Лялькі» пяць Гран-пры міжнародных фестываляў, шматлікія дыпломы, прызы за лепшыя спектаклі і ролі. Тэатр выступаў у многіх краінах свету, сярод якіх Германія, Іран, Латвія, Польшча, Расія, Туніс, Турцыя, Фінляндыя, Францыя і інш.

У 2000 г. за высокія дасягненні ў тэатральным мастацтве трупа атрымала ганаровае званне «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь».

Рэпертуар тэатра складаюць больш за 30 спектакляў па класічных і сучасных творах для дарослых і дзяцей розных узроставых груп. Акрамя таго, у тэатры праходзіць батлеечнае прадстаўленне, створанае на аснове класічнага сюжэта пра Ісуса Хрыста і цара Ірада. Усе спектаклі калектыву падпарадкоўваюцца асноўнаму напрамку, якое вызначаецца як эстэцкі тэатр-свята.

Апрача ўласна прадстаўленняў, «Лялька» прапануе сваім наведвальнікам азнаёміцца з музеем лялек у фае тэатра. На экспазіцыі, якая папаўняецца з архіва тэатра, прадстаўлены разнастайныя сістэмы лялек (марыянеткі, планшэтныя, пальчаткавыя лялькі), элементы сцэнаграфіі са спектакляў, а таксама механічны тэатр і батлейка (узноўлена па ўзоры аўтэнтычнай магілёўскай батлейкі XVIII ст.), створаныя мастаком Аляксандрам Сідаравым.

Сёння Беларускі тэатр «Лялька» — у росквіце творчых сіл. У ім сабраліся таленавітыя мастакі, творцы, кожны з якіх штодзень стварае незабыўнае «аблічча» тэатра.

M

# Віцебская мастацкая школа



Былы будынак Віцебскага мастацкага тэхнікума

Віцебская мастацкая школа — у шырокім сэнсе — легендарна-гістарычная мастацкая прастора. Своеасаблівая творчая аўра горада. У вузкім сэнсе Віцебская мастацкая школа — гэта сукупнасць мастацкіх навучальных устаноў, якія існавалі ў Віцебску на працягу XX ст., а таксама творчасць мастакоў некалькіх пакаленняў, якія вучыліся і працавалі ў горадзе ў гэты перыяд.

Віцебская мастацкая школа — з'ява шматнацыянальная, у якой нароўні з беларускімі выразна бачныя яўрэйскія, расійскія, польскія традыцыі. Яе гісторыя пачынаецца ад школы малявання і жывапісу Юдэля Пэна, якая была адкрыта ў 1897 г. Навучанне тут засноўвалася на акадэмічных прынцыпах. Праз школу Пэна прайшлі Марк Шагал, Восіп Цадкін, Лазар Лісіцкі, Саламон Юдовін і інш., многія ў далейшым адышлі ад рэалістычных прынцыпаў адлюстравання натуры, але былі ўдзячныя свайму настаўніку і з павагай адносіліся да яго пазіцыі ў мастацтве.

Знамянальным этапам у гісторыі Віцебскай мастацкай школы з'яўляецца перыяд дзейнасці Віцебскай народнай мастацкай вучэльні, дзе выкладалі Мсціслаў Дабужынскі, Марк Шагал, Ксенія Багуслаўская, Вера Ермалаева, Ніна Коган, а пазней Давід Якерсон, Лазар Лісіцкі. Значны след у гісторыі Віцебскай мастацкай школы пакінула творчае аб'яднанне УНОВІС (1920–1922). Эстафету мастацкай адукацыі працягнулі Віцебскі мастацка-практычны інстытут (1922–1923), Віцебскі мастацкі тэхнікум (1923–1941).

У другой палове XX ст. свой унёсак у развіццё традыцый мастацкай школы ўнесла Віцебскае мастацка-графічнае педагагічнае вучылішча (1949–1959), яго выкладчыкі (Валянцін Дзежыц, Іван Сталяроў, Рыгор Клікушын і інш.) і выпускнікі (Эдуард Агуновіч, Уладзімір Крукоўскі, Генадзь Шутаў і інш.)

Адкрыццё мастацка-графічнага факультэта ў Віцебскім дзяржаўным педагагічным інстытуце (1959) спрыяла ўмацаванню аўтарытэту і пазіцый Віцебскай мастацкай школы. Да гэтага часу адносіцца творчасць выкладчыкаў Леаніда Анцімонава, Фелікса Гумена, Анатоля Кавалёва, Міхася Ляўковіча і інш.

У другой палове XX ст. фармуецца Віцебская школа акварэлі. Як цэласная мастацкая з'ява яна атрымала сваё развіццё шмат у чым дзякуючы актыўнай творчай і педагагічнай практыцы Ф. Гумена, а таксама аўтарскім праграмам і методыцы выкладання акварэльнага жывапісу, распрацаваным І. Сталяровым. З 1995 г. суполка «Віцебская акварэль» аб'яднала большасць прадстаўнікоў гэтай школы ці ў сваіх шэрагах, ці ў выставачных праектах.

Знамянальнай падзеяй стала дзейнасць у 1987–1994 гг. у Віцебску творчага аб'яднання «Квадрат», куды ўвайшлі дзесяць мастакоў — выпускнікоў мастацка-графічнага факультэта, якія працавалі ў розных творчых кірунках. У якасці канцэптуальнай асновы аб'яднання былі скарыстаны ідэі Казіміра Малевіча і УНОВІСА. Галоўнай жа мэтай была арганізацыя руху, альтэрнатыўнага афіцыйнаму мастацтву сацрэалізму, прапаганда права на эксперымент, на самастойны, незалежны погляд на праблемы мастацтва.

Актыўны перыяд у творчасці віцебскіх мастакоў уяўляюць 1980–1990-я гг. З'яўляюцца новыя праекты, сярод якіх серыя выстаў «in-formation» (1994–2000). Значным і шматэтапным куратарскім праектам у мастацкай прасторы Віцебска стаў штогадовы арт-праект «Abstract» (1999–2009, куратар Васіль Васільеў). У 2000-я гг. такімі ж серыйнымі стануць праекты «Пан-Тон» (куратар Аляксандр Паўлоўскі) і «Кінематограф» (куратар Дзмітрый Даніловіч). Сапраўдным барометрам, які з 1992 г. адлюстроўвае сучасны ўзровень творчасці маладых прадстаўнікоў Віцебскай мастацкай школы, з'яўляецца «Арт-сесія» — конкурс-выстава візуальных мастацтваў творчай моладзі.

Адраджэнне цікавасці да гісторыі і творчай практыкі віцебскага авангарда, пачынаючы з 1980-х гг., было таксама злучана з творчасцю выкладчыкаў і студэнтаў кафедры дызайну Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці (пазней Віцебскага тэхналагічнага ўніверсітэта).

Дваццатае стагоддзе, безумоўна, стала лёсавызначальным этапам у развіцці выяўленчага мастацтва ў Віцебску. Але і сёння мастацкая прастора горада напоўнена разнастайнымі творчымі ініцыятывамі. Сучасныя прадстаўнікі Віцебскай мастацкай школы не толькі злучаюць сваю творчасць з мастацкімі кірункамі, што існавалі ў Віцебску і ў другой палове XX ст., але і з'арыентаваны на наватарства і эксперымент.

Н

# Мікалай Нікіфароўскі




Памятная дошка Мікалаю Нікіфароўскаму на былым будынку гімназіі

Выдатны беларускі этнограф, фальклярыст, асветнік Мікалай Нікіфароўскі — плоць ад плоці, кроў ад крыві Віцебшчыны. Нарадзіўся ён у 1845 г. у в. Вымна Віцебскага павета (цяпер в. Вымна, цэнтр сельсавета) і праз усё жыццё пранёс любоў да роднага краю, напісаўшы пра яго каля 20 даследаванняў.

Хлопчык з сям'і званара мясцовай царквы з маленства вызначаўся розумам і паводзінамі. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю. Як выдатнаму вучню яму прапанавалі працягнуць адукацыю ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі, але памёр бацька, а ў маці яшчэ 6 дзяцей. Замест вучобы таленавіты хлопец вымушаны быў пайсці працаваць, каб дапамагаць сям'і, падымаць малодшых братоў і сястрычак. Стаў настаўнікам у народным вучылішчы ў в. Лоўжа (цяпер Шумілінскі раён). Пазней працаваў у гімназіях у Віцебску і Віцебскай губерні.

Талент ёсць талент. Не наканавана было стаць святаром, ён усё роўна развіваецца духоўна і пачынае даследаваць духоўны свет сваіх землякоў і звязаны з ім свет матэрыяльны. Штуршком паслужыла знаёмства з этнографам Паўлам Шэйнам, які сам, а таксама праз вучняў і знаёмых збіраў фальклор Віцебшчыны. Больш як 20 гадоў М. Нікіфароўскі быў карэспандэнтам П. Шэйна і дасылаў яму вялізную колькасць звестак пра побыт, культуру і творчасць мясцовага насельніцтва. А ў 1891 г. вырашыў стаць на самастойны навуковы шлях.

Першыя публікацыі М. Нікіфароўскага паказалі — у беларусазнаўстве з'явілася новае імя. Дзейнасць яго настолькі шматгранна, а сабраныя звесткі настолькі шырокія, што няма, здаецца, ніводнага даследчыка фальклору і этнаграфіі ўсходніх славян, хто б не спасылаўся на працы ці не выкарыстоўваў матэрыялы М. Нікіфароўскага.

Своеасаблівай «"народнай" энцыклапедыяй» Віцебшчыны можна лічыць кнігу «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку». У ёй скрупулёзна разглядаюцца ўсе бакі жыцця селяніна: ежа, адзенне, абутак, жыллё, інтэр'еры жылых памяшканняў, прылады працы, прадметы хатняга ўжытку, промыслы, рамёствы, побытавае жыццё сялян канца XIX ст. Па паданнях, запісаных М. Нікіфароўскім, можна зняць серыял на некалькі сезонаў, а лепей схадзіць на месцы дзеяння паданняў у паход і праверыць — ці праўду казаў вучоны? З кнігі «Нячысцікі» (1907) можна даведацца, як стаць ваўкалакам ці прыгатаваць любізнік. У кнізе «Беларускія песні-частушкі» змешчана 2356 частушак. З іх 1357 запісаны на Віцебшчыне.

Ніхто, на маю думку, так не апісаў Віцебск, як Нікіфароўскі ў кнізе «Старонкі з нядаўняй даўніны горада Віцебска» (1899). Кніга настолькі папулярная, што яе перавыдалі ўжо ў наш час.

Памятная шыльда ў памяць даследчыка ёсць на будынку былой прыватнай гімназіі Неруша, дзе працаваў М. Нікіфароўскі. Абавязкова звярніце на яе ўвагу, калі будзеце праходзіць па вуліцы Талстога. І прыгадайце добрым словам казачніка і вучонага Мікалая Нікіфароўскага, бо ён гэтага варты.



# Сігізмунд Юркоўскі

Вуліца Замкавая, дзе знаходзілася фотаатэльe Сігізмунда Юркоўскага.
Фота з сайта «Віцебская энцыклапедыя» (www.evitebsk.com)

Сігізмунд Антонавіч Юркоўскі (1833–1901) — фатограф, які большую частку свайго жыцця пражыў у Віцебску. У 1866 г. ён адчыніў адно з першых у горадзе фатаграфічных атэлье, якое перапыніла сваё існаванне толькі пасля смерці ўладальніка.

За час сваёй працы Юркоўскі зрабіў дзясяткі тысяч здымкаў жыхароў Віцебска, фатаграфаваў архітэктурныя аб'екты і сцэны паўсядзённага жыцця горада, выязджаў для здымак у навакольныя маёнткі і іншыя куткі Беларусі. Цікавіўся тэорыяй і практыкай фатаграфіі. Быў аўтарам артыкулаў для часопісаў «Фотограф» і «Русский фотографический журнал», якія выходзілі ў Пецярбургу. У іх фатограф апісваў свае назіранні над уласцівасцямі фотапаперы, даваў парады, як лепш выкарыстоўваць жывыя расліны ў якасці аксесуара павільёна, раіў, як лепш рабіць здымкі арыштантаў (ад чаго іншым разам залежаў іх лёс), тлумачыў прынцыпы з'яўлення стэрэаскапічнага эфекту і г. д.

Юркоўскі займаўся ўдасканальваннем фатаграфічных прылад, стаў вынаходнікам імгненнага затвора фотаапарата, які лёг у аснову ўсёй фотатэхнікі на наступнае стагоддзе аж да з'яўлення лічбавых тэхналогій. Быў сябрам Рускага Тэхнічнага таварыства, удзельнічаў у фатаграфічных выставах у Маскве і Пецярбургу, дзе яго працы шмат разоў адзначаліся ўзнагародамі.

Месца нараджэння Юркоўскага застаецца няясным. Вядома толькі, што ён нарадзіўся ў шляхецкай сям'і і быў каталіцкага веравызнання. У 1844–1850 гг. вучыўся ў Магілёўскай мужчынскай гімназіі, у 1852–1855 гг. — у Юрыдычным ліцэі князя Безбародкі ў горадзе Нежыне. Пасля заканчэння ліцэя вярнуўся з Украіны ў Беларусь і ўладкаваўся на працу чыноўнікам у канцылярыю Магілёўскага грамадзянскага губернатара. У 1856 г. паступіў у імператарскую Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу.

У вольны ад заняткаў час пачаў наведваць атэлье аднаго з самых знакамітых фатографаў-партрэтыстаў Андрэя Іванавіча Дэньера (1820–1892), які таксама быў выхаванцам Магілёўскай гімназіі. Аднак з-за слабасці здароўя («цяжкая лёгачная хвароба») Юркоўскі прабыў у сталіцы імперыі ўсяго толькі год, зноў вярнуўся ў Магілёў і на розных пасадах праслужыў там да 1866 г. Пакінуўшы службу, разам з сям'ёй пераехаў у Віцебск, дзе на ўласную рызыку адчыніў фотаатэлье.

На працягу 20 гадоў Сігізмунд Юркоўскі быў дэпутатам Віцебскай гарадской думы, вырашаў розныя пытанні добраўпарадкавання горада. У 1859 г. ён ажаніўся з Леакадзіяй Палькоўскай, меў дачок Вікторыю і Анелію і сына Эдмунда. Памёр славуты фатограф 7 лютага 1901 г. у Коўне, а пахаваны быў у Віцебску побач з касцёлам Св. Варвары. Магіла не захавалася.

П

# Іегуда Пэн



Помнік на магіле Іегуды Пэна

Іегуда (Юрый Майсеевіч) Пэн (1854–1937) — мастак, кіраўнік прыватнай Школы малявання і жывапісу ў Віцебску. Нарадзіўся ў беднай яўрэйскай сям'і ў горадзе Новааляксандраўску Ковенскай губерні (зараз горад Зарасай Літоўскай Рэспублікі). Быў дзясятым дзіцём у сям'і. Калі хлопчыку споўнілася чатыры гады, памёр ягоны бацька і маці аддала сына ў хедэр (яўрэйская пачатковая рэлігійная школа), дзе ён пачаў рабіць першыя малюнкі. Потым маці адправіла яго ў горад Дзвінск (зараз Даўгаўпілс Латвійскай Рэспублікі), дзе Пэн стаў працаваць памочнікам майстра па маляванні шыльдаў. Зрэшты, пакінуўшы працу ў гаспадара, юнак пачаў зарабляць на жыццё маляваннем і прыватнымі ўрокамі.

У 1879 г. пераехаў у Пецярбург і паспрабаваў здаць экзамен для паступлення ў Акадэмію мастацтваў. Спроба аказалася няўдалай, ён праваліўся на экзамене па рускай мове і літаратуры. Застаўшыся ў сталіцы імперыі, жыў выпадковымі заробкамі і ўпарта рыхтаваўся да новага паступлення ў Акадэмію. У 1881 г. паспяхова здаў экзамены. Займаўся ў класе вядомага мастака і педагога Паўла Часцякова. У 1885 г. атрымаў дыплом аб заканчэнні Акадэміі мастацтваў са званнем «някласнага мастака».

У 1886 г. вярнуўся ў Новааляксандраўск, потым у пошуках працы пераехаў у Рыгу, дзе пазнаёміўся з баронам М. Корфам. Па запрашэнні барона пераехаў у яго маёнтак Крэйцбург (зараз г. Екабпілс у Латвіі), дзе пражыў 8 гадоў. Там жа пазнаёміўся з віцебскім губернатарам У. Левашовым, пры садзейнічанні якога пераехаў у Віцебск, дзе заставаўся да канца жыцця і восенню 1898 г. адчыніў Школу малявання і жывапісу. Пэн пісаў партрэты, пейзажы, а таксама жанравыя сцэны, пераважна з яўрэйскага побыту. Праз свае творы здолеў перадаць светаадчуванне яўрэйскага народа расійскай мяжы аселасці. Яго працы экспанаваліся на выставах у Маскве, Пецярбургу, Мінску, Магілёве, Віцебску, Парыжы, Берліне. У 1927 г. на Другім з'ездзе Саветаў Віцебшчыны ў сувязі з 30-годдзем мастацкай і мастацка-педагагічнай дзейнасці Пэну было прысвоена званне заслужанага яўрэйскага мастака Віцебшчыны.

Праз мастацкую школу Пэна прайшлі сотні юнакоў і дзяўчат, якім ён здолеў прывіць любоў да мастацтва і імкнуўся перадаць сваю нацыянальна-мастацкую ідэю. З'яўляючыся паслядоўнікам рэалізму і эстэтыкі мастакоў-перасоўнікаў, Пэн стаў педагогам цэлай плеяды мастакоў авангарда. Яго лічылі сваім настаўнікам такія сусветна вядомыя мастакі, як Марк Шагал, Восіп Цадкін, Оскар Мешчанінаў, Эль Лісіцкі, Паліна Хентава і інш.

Іегуда Пэн быў па-зладзейску забіты ў сваёй кватэры ў Віцебску ўначы з 28 лютага на 1 сакавіка 1937 г. Абставіны забойства не высветлены да гэтага часу. У 1939 г. у Віцебску была адчынена Карцінная галерэя Ю. М. Пэна, якая дзейнічала да вайны.

Магіла Пэна знаходзіцца на Стара-Сямёнаўскіх могілках. У 2007 г. на доме № 21/30 па вул. Леніна, дзе раней знаходзіўся дом, у якім жыў мастак і дзе была яго школа, усталявана мемарыяльная дошка. Працы Пэна захоўваюцца ў Віцебскім мастацкім музеі і Нацыянальным мастацкім музеі РБ.

Ратуша з'яўляецца адным з неад'емных сімвалаў Віцебска, адзнакай еўрапейскага горада. Права ўзводзіць такія будынкі мелі жыхары толькі тых гарадоў, якія атрымалі Магдэбургскае права (альбо права на самакіраванне). Віцебску яно было нададзена ў 1597 г., тады ж на Рынкавай плошчы з'явілася драўляная ратуша для пасяджэнняў магістрата.

На працягу XVI–XVIII стст. яна неаднаразова гарэла і аднаўлялася, а ў 1775 г. для гарадскіх улад нарэшце быў узведзены цагляны будынак, які з пэўнымі зменамі захаваўся да нашых дзён. Першапачаткова ён меў два паверхі, чатырох'ярусная вежа завяршалася шпілем. У ратушы адбываліся пасяджэнні гарадской думы, а з пачатку XIX ст. тут таксама размясціліся гарадская ўправа, суд, банк, паліцыя і пажарная каманда, якая з вышыні вежы назірала, ці не гарыць які-небудзь аддалены гарадскі квартал. Тады ж з паўночнага боку да ратушы былі прыбудаваны двухпавярховыя карпусы, а частка памяшканняў была аддадзена пад крамы. У 1833 г. на вежы быў усталяваны гадзіннік і зроблена назіральная пляцоўка.

У XIX ст. ратуша працягвала з'яўляцца своеасаблівым сімвалам еднасці гараджан. Сваімі бакавымі карпусамі яна як быццам абдымала храмы розных канфесій, што знаходзіліся па розныя бакі ад яе: уніяцкую Васкрасенскую царкву і каталіцкі касцёл Святога Антонія.

Лік устаноў, якія размяшчаліся ў ратушы, як і колькасць іх супрацоўнікаў, з цягам часу павялічваўся, таму ў 1911 г. быў надбудаваны трэці паверх. У выніку вонкавы выгляд ратушы значна змяніўся: сама яна стала выглядаць больш масіўнай, а яе вежа пачала здавацца не такой высокай.

З 1925 г. у будынку былой гарадской ратушы размясцілася Віцебскае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага музея, які з цягам часу трансфармаваўся ў Віцебскі абласны краязнаўчы музей, чые фонды знаходзяцца тут і па сённяшні дзень. Зараз у гэтым музеі налічваецца амаль 200 тыс. экспанатаў, а на вежу можа ўзняцца любы ахвочы: не з мэтай выявіць, дзе здарыўся пажар, а каб палюбавацца на горад з вышыні.

Да нядаўняга часу, пакуль у Віцебску не пачалося аднаўленне помнікаў архітэктуры, ратуша была ледзь не адзіным старадаўнім будынкам, які сведчыў пра багатую гісторыю горада. Гэтым тлумачыцца любоў да яе гараджан і тое, што яе выява змешчана не толькі на паштовых марках, канвертах, сувенірных магнітах, а нават на эмблеме футбольнага клуба «Віцебск».

# Стрыт-арт



Мастак URA за працай

Стрыт-арт (англ. Street art — вулічнае мастацтва) у віцебскай прасторы прадстаўлены рознымі формамі, жанрамі і стылямі. Творчы патэнцыял вулічных мастакоў скіраваны на ўдасканаленне эстэтычных якасцей гарадской прасторы, на ўпрыгожванне двароў і вуліц. Аўтары — маладыя людзі, не ўсе з каторых жадаюць сябе афішаваць, хаваючыся за творчымі нікамі.

Сярод найбольш вядомых у апошнія гады — каманда HoodGraff, большасць твораў якой выканана ў стылістыцы фотарэалізму. Назву каманда атрымала ад факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава, які скончылі яе сябры — Глеб Каштанаў і Ян Кузьмін. Большасць іх твораў была змешчаная на цеплапунктах. Графічныя партрэты звычайна суправаджаліся подпісамі-цытатамі на роднай мове герояў малюнкаў (англійскай, рускай). Першы партрэт амерыканскага рэпера Snoop Dogg у двары на праспекце Чарняхоўскага, 6/4) з'явіўся ў кастрычніку 2013 г. па ініцыятыве дызайнера Арцёма Буржа, які быў ідэйным натхняльнікам і заснавальнікам праекта.

Пазней выконваліся партрэты Боба Марлі (Маскоўскі праспект, 19-2), Стыва Джобса (вул. Чкалава, 9-7), Мэрылін Манро (вул. Чкалава, 10), Юрыя Гагарына (вул. Чкалава, 19-3), Сальвадора Далі (вул. Белабарадава, 3), гурта Cypress Hill (вул. Чкалава, 18-3), а таксама графіці для дзяцей «Зоркамі не нараджаюцца, зоркамі становяцца» (Маскоўскі праспект, 19-2) і інш.

Зараз HoodGraff распаўся, затое з'явілася каманда StreetSkills у складзе ўжо вядомых Яна Кузьміна і Глеба Каштанава. Сярод новых твораў — партрэт Марка Шагала, здзейснены да 100-годдзя вяселля Марка і Бэлы (у двары дамоў № 34 і 36 па вул. Суворава). Акурат у дзень народзінаў Джона Ленана StreetSkills выканалі партрэт славутага музыканта на адным з цеплапунктаў у дварах па вул. Кірава, 5.

У сярэдзіне 2015 г. група маладых мастакоў (Кірыла Дземчаў, Сцяпан Драздоў, Антон Левадній, Ігар Сідараў, Паліна Балашова) пры падтрымцы кампаніі MAV на сцяне «Арт-прасторы на Талстога, 7» стварыла графіці на падставе літаграфіі Эль Лісіцкага «Постаць з оперы "Перамога над Сонцам" "Новы"». Гэтымі ж мастакамі было выканана графіці паводле працы Казіміра Малевіча «Смерць шпалерам!» (на доме па вул. Леніна, 18). У Віцебску добра ведаюць стыль індывідуальных мастакоў Продка і URA. Продку (пад гэтым нікам працуе Максім Самасевіч) належыць самае маштабнае ў горадзе графіці «Стары ў космасе» на сцяне дома па вул. Камуністычная, 2.

URA — стрыт-арт-філосаф, яго кампазіцыі добрыя і іранічныя. Сярод яго твораў — Дворнік з коткамі (у двары на вул. Леніна), графіці ў абарону беспрытульных жывёл (вул. Камсамольская) і Птушкі з клеткамі (вул. Энгельса), зафарбаваныя ў кастрычніку 2015 г. Мастак часта выкарыстоўвае старыя газеты, ствараючы нешта накшталт вулічных інсталяцый ці калажаў.

Падтрымку развіццю «street art» аказаў і XX міжнародны конкурс-выстава візуальных мастацтваў студэнтаў мастацкіх спецыяльнасцей «Арт-сесія», дзе намінацыя «Street Art. Ты — у Віцебску» ўпершыню была заяўлена ў 2014 г. На адной са сцен у гарадскім парку Фрунзэ з'явілася графіці пераможцы конкурсу студэнта Вышэйшай школы візуальных мастацтваў у Дзюсельдорфе Алесандра Альтхауса «Арт-дзённік вандравання з Дзюсельдорфа ў Віцебск» даўжынёй каля 60 м.

На працягу некалькіх гадоў у Віцебску арганізоўвалася свята вулічнага мастацтва «Гравітацыя», у якім бралі ўдзел графіцісты з усёй краіны. Мастакам прапаноўваліся пэўныя тэмы, сярод якіх былі «Еўрапейскі Віцебск», «Віцебскі арнамент» і інш. У 2013 г. удзельнікам свята былі аддадзены сцены гаражоў па вул. Жасткова. Сярод розных прац можна вылучыць віцебскі трамвай ад URA, княгіню Вольгу ў стылі фэнтэзі ад Улада Хвастова, стылізаваную інтэрпрэтацыю старажытнага віцебскага герба ад гасцей з Мінска.

Стрыт-арт, безумоўна, упрыгожвае горад Віцебск, надае яму непаўторны выгляд. На жаль, пакуль беларуская тэматыка, нацыянальныя матывы і мясцовыя сюжэты ў творах віцебскіх графіцістаў не асабліва папулярныя, у адрозненне ад мінчан, дзе на сценах Мінска з'яўляюцца прынты з бюстамі Альгерда, Гедыміна, Уладзіміра Караткевіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы.

Т

# Трамвай




Копія першага віцебскага трамвая 1898 года ля ўвахода ў трамвайны парк

Кантракт на будаўніцтва і эксплуатацыю ў Віцебску трамвая — сеткі «чыгуначных дарог з электрычным рухавіком» па тагачаснай тэрміналогіі — быў падпісаны на пачатку лютага 1896 г. з «французскім грамадзянінам Гільёнам». Гарадская дума настаяла менавіта на дарагой і рэдкай на той час электрычнай цязе, таму што з-за складанага рэльефу ў горадзе нельга было будаваць трамвай конны. Фернан Гільён быў жанаты з сястрою «караля трамваяў» — буйнога еўрапейскага бізнесмена-фінансіста Эдуарда Атле (1842–1907), які жыў у Бруселі і ў красавіку 1896 г. стаў заснавальнікам акцыянернага таварыства «Трамваі Віцебска».

Пасля падпісання кантракта пачаліся будаўнічыя працы. Нямецкая кампанія «Шукерт і К°» з Нюрнберга ўзяла на сябе ўсталяванне электрычнай цягі праз паветраныя правады і неабходнае іх абслугоўванне. За ўзвядзенне патрэбных будынкаў, пастаўку кузаваў для маторных вагонаў і падрыхтоўку персаналу адказваў брусельскі холдынг «Саюз трамваяў», які займаўся эксплуатацыяй трамвайных ліній у Іспаніі, Расіі і Алжыры. Галоўным уласнікам новага прадпрыемства стаў Эдуард Атле і яго холдынг «Саюз трамваяў». Фернан Гільён з'яўляўся ўпаўнаважаным прадстаўніком холдынга і старшынёй праўлення віцебскага трамвая.

Урачыстае адкрыццё электрычнага трамвая ў Віцебску адбылося 18 чэрвеня 1898 г. — на год раней, чым у Маскве, і на 9 гадоў раней, чым у сталіцы імперыі Пецярбургу. Першымі пасажырамі сталі ганаровыя госці, запрошаныя на ўрачыстасць. Маторны вагон рушыў у свой першы шлях пасля таго, як ваенны аркестр выканаў трамвайны марш, адмыслова напісаны мясцовым кампазітарам Ота Крамерам.

З таго часу вуліцы Віцебска немагчыма ўявіць без сучаснага электрычнага транспарту. У 1978 г. да яго дадаўся тралейбус. Сёння ўнітарнае камунальнае транспартнае прадпрыемства «Віцебскае трамвайна-тралейбуснае ўпраўленне» ажыццяўляе да 63 % агульнагарадскіх перавозак. Штодня трамваямі і тралейбусамі перавозіцца больш за чвэрць мільёна пасажыраў. 25 тысяч кіламетраў штодзень прабягаюць электрычныя машыны па вуліцах Віцебска, значна аблягчаючы жыццё гараджан.

У 1966 г. па ініцыятыве завадскога камітэта прафсаюза на прадпрыемстве быў створаны Музей Віцебскага трамвая (вул. 5-я Фрунзе, 7). На працягу многіх гадоў гісторыю прадпрыемства грунтоўна даследуе яго кіраўнік Паўлючкоў Васіль Міхайлавіч, які ў 2010–2014 гг. выпусціў тры кнігі, дзе сабраў шматлікія дакументы па гісторыі віцебскага трамвая з айчынных і замежных архіваў.

У

# УНОВІС




Былы будынак Віцебскага Народнага мастацкага вучылішча.
Цяпер – Цэнтр сучаснага мастацтва

УНОВІС (ад руск. «Утвердители нового искусства») — творчае аб'яднанне, створанае Казімірам Севярынавічам Малевічам (1879–1935) на пачатку 1920 г. з навучэнцаў і выкладчыкаў Віцебскага Народнага мастацкага вучылішча. Аб'яднанне ўспрыняло ідэі супрэматызму ў жывапісе К. Малевіча. Сябры аб'яднання прытрымліваліся асобнага комплексу канцэпцый мастацкай педагогікі і калектыўнай творчасці.

Выкладчыкі вучылішча Казімір Малевіч, Вера Ермалаева, Ніна Коган, Лазар Лісіцкі працавалі па распрацаванай Малевічам педагагічнай сістэме, якая адпавядала яго тэорыі руху мастацтва ад Сезана да супрэматызму. Адной з форм навучання былі так званыя «гутаркі», падчас якіх выкладчыкі і студэнты чыталі даклады, пасля чаго адбываліся дыскусіі. З аналагічнымі па змесце вечарамі «вопытнага малявання» сябры аб'яднання выступалі ў агульнаадукацыйных школах Віцебска.

Ад мясцовых улад УНОВІС атрымліваў замовы на дэкараванне прадпрыемстваў горада, майстэрняў, складоў і магазінаў; аздабленне Гарадскога тэатра падчас урачыстасцей з нагоды юбілею Камітэта па барацьбе з беспрацоўем; распрацоўку ўзораў супрэматычных тканін і шыльдаў; аздабленне горада да свята 1 Мая 1920 г. і інш.

У аснову ідэалогіі аб'яднання была пакладзена папулярная ў тыя гады ідэя калектыўнай творчасці, якая атрымала дадатковую філасофскую інтэрпрэтацыю Малевіча.

УНОВІС вёў актыўную культурна-папулярызатарскую працу. К. Малевіч увесь час выступаў з публічнымі лекцыямі. Сябры аб'яднання ўдзельнічалі ў мітынгах і дыспутах, чыталі даклады па мастацтве, наладжвалі выставы.

Часткай педагагічнай сістэмы Малевіча з'яўляліся тэатральныя пастаноўкі. Сіламі сяброў аб'яднання ў Віцебску былі створаны і паказаны футурыстычная опера «Перамога над сонцам» (тэкст Аляксея Кручоных і Веліміра Хлебнікава, эскізы дэкарацый і касцюмаў В. Ермалаевай), Супрэматычны балет (пастаноўка Н. Коган) і монаспектакль «Вайна і мір» (паэма Уладзіміра Маякоўскага). Усе гэтыя пастаноўкі маніфеставалі прынцыпы новага тэатра.

УНОВІС быў адкрыты для ўсіх жадаючых. Яго сябрамі лічыліся паэт-футурыст А. Кручоных і мастак Пётр Мітурыч. Аддзяленні аб'яднання ўзніклі ў Арэнбургу, Самары і Смаленску.

У жніўні 1920 г. калектыў аб'яднання налічваў 36 чалавек. УНОВІС перапыніў сваё існаванне ў 1922 г., пасля таго як з Віцебска ад'ехалі Малевіч, Ермалаева, Лісіцкі, Коган і пад ціскам мясцовых улад склад выкладчыкаў быў цалкам зменены.

ў

# Васіль Быкаў




Мемарыяльная шыльда Васілю Быкаву на былым будынку Віцебскага мастацкага тэхнікума

Васіль Уладзіміравіч Быкаў (1924–2003) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч, адзін з тых знакамітых землякоў, хто праславіў нашу радзіму на ўвесь свет. Творы Быкава, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны перакладзены больш чым на 50 замежных моў, уваходзяць у школьную праграму па беларускай літаратуры. Па творах пісьменніка пастаўлена больш за 10 кінафільмаў, шэраг спектакляў, створаны балет «Альпійская балада», опера «Сцежкаю жыцця».

Жыццёвыя і творчыя шляхі Васіля Быкава, ураджэнца Ушацкага раёна, звязаны з Віцебскам. У 1939–1940 гг. будучы пісьменнік вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, якое знаходзілася ў той час у будынку па вул. Савораўскай (зараз вул. Суворава, 3). Спачатку юнак вучыўся на аддзяленні малявання і жывапісу, потым перайшоў на скульптурнае. Увосень 1940 г. з-за адмены стыпендый Быкаў вымушаны быў пакінуць вучобу і вярнуцца ў вёску. Памяць аб гэтым перыядзе жыцця пісьменніка захоўвае мемарыяльная дошка, якая была ўстаноўлена на будынку былога мастацкага вучылішча ў 2008 г.

У канцы 1940 г. Васіль Уладзіміравіч зноў прыехаў у Віцебск, каб паступіць у школу фабрычна-завадскога навучання будаўнікоў. Паводле яго ўспамінаў, узімку 1940–1941 гг. ён са сваімі аднагодкамі працаваў на будаўніцтве дамоў на Суражскай шашы (зараз вул. Гагарына; не захаваліся). У чэрвені 1941 г. разам з іншымі выпускнікамі школы ФЗН Быкаў апынуўся ва Украіне, у горадзе Шостка, дзе яго і застала вайна...

У дзеючай арміі Васіль Быкаў прайшоў шлях ад радавога да камандзіра ўзвода армейскай артылерыі, зведаў усе выпрабаванні ваеннага ліхалецця, некалькі разоў быў паранены. Асабліва цяжка — падчас удзелу ў Кіраваградскай аперацыі (Украіна). Яго нават памылкова запісалі як загінуўшага, і родныя атрымалі «пахавальную»...

Пасля вайны Быкаў жыў і працаваў у Гародні (з 1947 г.), потым у Мінску (з 1978 г.). Але сувязі пісьменніка з Віцебскам не парываліся. У 1980 г. адбыўся ягоны творчы вечар у тэатры імя Якуба Коласа, а напрыканцы 1990-х гг. на сцэне віцебскага тэатра ішла п'еса паводле аповесці В. Быкава «Пакахай мяне, салдацік».

Васіль Быкаў мае дачыненне да адкрыцця музея Марка Шагала ў Віцебску. У час, калі ў грамадстве ішлі спрэчкі аб мэтазгоднасці з'яўлення ў нашым горадзе такога музея, Быкаў разам з Рыгорам Барадуліным, Алесем Адамовічам і іншымі пісьменнікамі рашуча выказаўся на старонках СМІ супраць нападак і крытыкі ў адрас мастака. У 1988 г. Васіль Быкаў, Андрэй Вазнясенскі, Давід Сімановіч адправілі ў рэдакцыю газеты «Савецкая культура» ліст «О музее Марка Шагала в Витебске», у якім абгрунтавалі неабходнасць існавання такой установы культуры. Думаецца, што гэтае меркаванне таксама паўплывала на рашэнне аб стварэнні ў Віцебску Дома-музея М. Шагала, прынятае гарадскімі ўладамі ў 1991 г. Тады ж адбыліся першыя Усесаюзныя Шагалаўскія чытанні, на якіх прысутнічаў і сам пісьменнік. А праз год Васіль Быкаў быў у ліку тых, хто адкрываў на вуліцы Пакроўскай помнік Марку Шагалу.

У 2003 г., калі Быкава не стала, прадстаўнікі Віцебскай абласной арганізацыі «Таварыства беларускай мовы» выступілі з прапановай перайменаваць абласную бібліятэку імя Леніна ў бібліятэку імя Быкава. Тады ж была выказана думка аб адкрыцці ў Віцебску музея пісьменніка. Але далей прапаноў справа не пайшла. Хочацца спадзявацца, што ў абласным цэнтры ўсё ж такі з'явіцца не толькі бібліятэка, але і вуліца ў гонар вялікага ўраджэнца віцебскай зямлі.



# Філармонія

Будынак Віцебскай філармоніі

Віцебская абласная філармонія ўтворана ў 1989 г. на базе гастрольна-канцэртнага аддзялення Беларускай дзяржаўнай філармоніі па Віцебскай вобласці. Яе мэты — прапаганда класічнай музыкі, папулярызацыя нацыянальнай культуры і сусветных выканальніцкіх школ. На працягу ўжо больш чым чвэрці стагоддзя калектывы і салісты абласной філармоніі вядуць гастрольную дзейнасць на розных сцэнічных пляцоўках вобласці, рэспублікі і за яе межамі.

Філармонія размяшчаецца ў былым гарадскім тэатры, моцна перабудаваным пасля вайны.

Тэатр з'явіўся на цяперашняй плошчы Леніна (былая Смаленская кірмашовая) у 1873–1874 гг. па ініцыятыве віцебскага губернатара Паўла Якаўлевіча Растоўцава. У канцы XIX ст. глядзельная зала тэатра была чатырох'ярусная і магла змясціць да 800 гледачоў.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны будынак быў моцна пашкоджаны. У 1957 г. на яго месцы ў стылістыцы гэтак званага «сталінскага ампіру» ўзводзяць Палац культуры ўпраўлення побытавага абслугоўвання насельніцтва. Для размяшчэння ў гэтым будынку Віцебскай абласной філармоніі спатрэбілася яго маштабная рэканструкцыя, якая завяршылася ў 2005 г. У наш час у філармоніі дзейнічаюць дзве залы: вялікая — на 500 гледачоў і малая — на 100. Штогод філармонія праводзіць каля тысячы канцэртаў не толькі на сваёй сцэне, але і па вобласці і за яе межамі.

Філармонія валодае сучасным музычным абсталяваннем, да якога належаць канцэртны раяль фірмы «Steinway & Sons» і духавы арган нямецкай фірмы «Glatter-Gotz». Гэта дазваляе запрашаць музыкаў самага высокага ўзроўню.

Арган выкананы па індывідуальным праекце, ён мае 36 рэгістраў і багатую гукавую палітру. Яго адметная канструктыўная асаблівасць — спалучэнне гучання французскіх познерамантычных інструментаў і нямецкага рамантычнага аргана.

Інаўгурацыя аргана ў зале Віцебскай абласной філармоніі адбылася 6 ліпеня 2007 г. Сярод музыкаў, якія гралі на аргане, вядомыя выканаўцы з Францыі, Аўстрыі, Беларусі, Германіі, ЗША, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Фінляндыі, Швецыі.
У штаце Віцебскай філармоніі працуюць вакалісты, інструменталісты, шэраг інструментальных і харэаграфічных калектываў. Гэта актэт балалаек «Віцебскія віртуозы», ансамбль танца, музыкі і песні «Талака», сімфанічны аркестр Віцебскай абласной філармоніі.

Сярод самых вядомых праектаў Віцебскай абласной філармоніі — Міжнародны музычны фестываль імя Івана Іванавіча Салярцінскага, які штогод праводзіцца ў Віцебску, пачынаючы з 1989 г. У межах фэсту праходзяць музычныя канцэрты, выставы, тэатральныя пастаноўкі, кінапаказы, а таксама навуковыя чытанні «Віцебскі рэнесанс пачатку XX стагоддзя».

У філармоніі ў 2010 г. быў створаны адзіны ў сваім родзе ў Беларусі цыкл канцэртна-пазнавальных праграм для будучых мам «Саткаць душу з нот» (аўтар і вядучая Таццяна Савіцкая). Яго паэтычная назва ўзята з усходняй традыцыі, паводле якой кожная дзяўчына павінна выткаць дыван сабе ў пасаг, а кожная цяжарная жанчына — саткаць душу свайго дзіцяці з музычных нітак свайго голасу. Рэпертуар для сустрэч не строга канцэртны, ён уключае музыку, кансультацыі псіхолагаў, юрыстаў, лекараў і іншых спецыялістаў.

Віцебская абласная філармонія, акрамя непасрэдна арганізацыі і правядзення канцэртаў, займаецца запісам фанаграм, стварэннем сцэнараў і распрацоўкамі рэжысуры для розных мерапрыемстваў.

Храмы — твар і душа Віцебска. З іх складаюцца архітэктурныя дамінанты і абрыс горада. Яны прыцягваюць паломнікаў і турыстаў. Яны — месцы, куды ідуць жыхары ў радасныя і горкія часы свайго жыцця.

Да 1917 г. у Віцебску было 33 праваслаўных храмы. Былі і каталіцкія касцёлы, а да 1839 г. і шмат уніяцкіх. Меліся ў нас і малельныя дамы старавераў, пратэстанцкія кірхі, іўдзейскія сінагогі.

Першы каменны храм у Віцебску — Дабравешчанская царква — быў пабудаваны ў XII ст. Тут захоўваліся эталоны мер вагі і даўжыні, важнейшыя дакументы горада, яго прывілеі. У 1961 г. найвыдатнейшы помнік старажытнага дойлідства быў знішчаны. Царкву адбудавалі ў 1990-я гг.

Другой праваслаўнай святыняй горада быў Свята-Траецкі Маркаў мужчынскі манастыр. Заснаваны адпаведна паданню ў XIV ст. нейкім Маркам, ён хутка стаў важным духоўным цэнтрам Падзвіння. У ім захоўваўся вельмі шанаваны абраз Казанскай Божай маці. Манастыр быў зачынены бальшавікамі, але ягоная дзейнасць адноўлена ў 2000 г.

Самым велічным храмам Віцебска з’яўляўся Прачысценскі (Успенскі) сабор, які ўзвышаецца на гарадам на аднайменнай Успенскай гары. У час наведвання Віцебска ў 1872 г. міністр народнай адукацыі Расійскай імперыі граф Дзмітрый Талстой сказаў: «Навучыцеся будаваць храмы так лёгка, прыгожа і велічна, як пабудаваны гэты!»

У 1772 г. быў збудаваны адзін з самых прыгожых храмаў — уніяцкая Уваскрасенская (Рынкавая) царква. У 1930-я гг. яна была зруйнавана, але ў 2009 г. адноўлена як праваслаўная. Насупраць гэтага маляўнічага будынка архітэктуры віленскага барока сёння знаходзіцца помнік вялікаму князю Альгерду.

Велічнасцю адрозніваўся Мікалаеўскі кафедральны сабор. Пабудаваны ён быў у 1731 г. як езуіцкі касцёл Св. Іосіфа. Калі храм у 1957 г. узарвалі, на месцы, дзе ён стаяў, утварылася цэлая плошча Свабоды.

Выдатным сімвалам Віцебска з’яўлялася драўляная Траецкая царква, якую часцей называлі «Чорная Тройца». Стаяла яна на Пескавацiку насупраць цяперашняй школы № 16. Сёння храм можна ўбачыць толькі на малюнках Дзмітрыя Струкава, гравюрах Саламона Юдовіна ці нешматлікіх фотаздымках.

У гады савецкай улады амаль усе храмы горада, не зважаючы на канфесійную прыналежнасць, былі знішчаны. З праваслаўных святыняў дзейнічала толькі адна — царква Казанскай іконы Божай маці. Служба тут ніколі не перарывалася. Пакроўскаму храму (быламу касцёлу кляштара трынітарыяў) пашанцавала больш, чым іншым. Яго не зруйнавалі, і ў ім месціліся турма, жаночая калонія, выцвярэзнік. У касцёле Св. Варвары быў склад аўтобуснага парка, а ў Вялікай Любавіцкай сінагозе жылі людзі.

На сённяшні дзень шэраг значных храмаў Віцебска адноўленыя. На жаль, гэта не аўтэнтычныя помнікі, але іх вяртанне на палатно горада робіць вялікую справу для аднаўлення нашай гістарычнай памяці і хараства родных мясцін.

# Ц

# Цэнтр сучаснага мастацтва



Адзін з аб'ектаў Цэнтра сучаснага мастацтва – Арт-прастора «Талстога, 7»

Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама быў створаны ў 1998 г. па ініцыятыве групы творчай інтэлігенцыі на чале з Валянцінай Кірылавай, якая ў далейшым стала яго першым дырэктарам. За свае мэты ўстанова ўзяла захаванне і развіццё традыцый Віцебскай мастацкай школы, вывучэнне, падтрымку і папулярызацыю творчасці сучасных мастакоў у галіне візуальных мастацтваў, далейшае развіццё актуальнага мастацтва ў горадзе Віцебску. Колькасць адзінак захоўвання ў музеі перавышае дзве тысячы экспанатаў, сярод якіх значнае месца займаюць творы мастакоў розных краін, што былі выкананы па выніках пленэраў «Малевіч. УНОВІС. Сучаснасць».

Музею належаць некалькі музейна-экспазіцыйных пляцовак: вялікая і малая экспазіцыйныя залы (вул. Белабародава), выставачная зала «Музычная гасцёўня» (праспект Фрунзе), «Арт-прастора “Талстога, 7”» (вул. Талстога) і будынак на вуліцы Праўды, 5а. Апошні ў спісе — гістарычны помнік, вядомы як дом віцебскага банкіра Вішняка. Каменны дом быў пабудаваны Ізраілем Вішняком недзе ў 1913 г. на вуліцы, якая насіла назву Васкрасенскай (пазней — Бухарынская, зараз — вул. Праўды). Пасля кастрычніцкага перавароту да верасня 1918 г. яго ўладальнікам заставаўся купец Вішняк, аднак потым будынак быў нацыяналізаваны і перададзены Народнай мастацкай вучэльні. У ім з 1918 па 1923 гг. размяшчалася Віцебская народная мастацкая вучэльня, дзе працавалі Марк Шагал, Юры Пэн, Казімір Малевіч, Эль Лісіцкі і некаторыя іншыя сябры аб’яднання УНОВІС. У свой час будынак зведаў перапланіроўку, змены вонкавага аблічча і ў дадзены час знаходзіцца на рэканструкцыі. У ім плануецца стварэнне музейнай экспазіцыі, прысвечанай славутаму перыяду «Віцебскага рэнесансу», Віцебскай мастацкай школе.

Рэгулярна на экспазіцыйных пляцоўках музея ладзяцца персанальныя і калектыўныя выставы твораў сучасных мастакоў з розных краін свету і, канешне ж, з Беларусі і Віцебска. Музей супрацоўнічае і экспануе творы як маладых мастакоў, так і вядомых творцаў, ідэі якіх увасобленыя ў розных відах і жанрах мастацтва. Прыярытэтнымі для музея сталі канцэптуальныя праекты, творчасць мастакоў, што працуюць ва ўсіх формах актуальнага мастацтва.

Сярод ініцыятыў, якія атрымалі пастаянную «прапіску» ў музеі, можна назваць выставачныя праекты «Абстракт», «Партрэт горада», выставы аб’яднання «M’ART». Актыўнымі ўдзельнікамі моладзевых праектаў і акцый з’яўляюцца студэнты і выкладчыкі мастацкіх спецыяльнасцей Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта і Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Супрацоўнікамі музея арганізуюцца разнастайныя культурныя мерапрыемствы, рэгулярна праводзяцца экскурсіі, музейна-педагагічныя заняткі, чытаюцца лекцыі, бярэцца ўдзел у навуковых канферэнцыях і міжнародных праектах. Пры музеі дзейнічаюць мастацкія студыі для дзяцей і дарослых.

Ч

# Бітлз-клуб «Чердачок»



Будынак, у каторым месціцца «Паддашак»

Бітлз-клуб (вар. «Чердачок», «Паддашак», «Каблук») — месца культурніцкай актыўнасці, а таксама творчае грамадскае аб'яднанне ў Віцебску.

Гісторыя бітлз-клуба пачынаецца ў 2003 г., калі прадпрымальнікі і аматары гурта «Beatles» браты Гарык і Рудольф Аганджаняны аб'ядналі блізкіх па духу людзей пад дахам абутковай майстэрні «Каблучок» у актыўную сяброўскую тусоўку. З цягам часу супольнасць вырасла ў творчае грамадскае аб'яднанне. Да 2012 г. бітлз-клуб існаваў па адрасе вул. Кастрычніцкая, 11, і не будзе перабольшваннем сказаць, што месца стала культавым, а яго аналагаў па сёння не існуе ва ўсёй Беларусі.

Ад пачатку культурніцкая актыўнасць праяўлялася ў асноўным праз канцэрты. На сцэне «Паддашка» выступалі амаль усе значныя беларускія гурты: «Дай дарогу!», «Серебряная свадьба», «AKUTE», «Петля Пристрастия», «Нагуаль», «Адис-Абеба», «Фляўс і Кляйн» і інш. Пры гэтым нярэдкімі гасцямі былі і замежныя «зоркі» — Барыс Грабеншчыкоў, Сяргей Бабкін і інш. Важным момантам у развіцці «Чердачка» быў удзел у арганізацыі бітлз-фестывалю ў Віцебску.

Адметнасці «Паддашка» — начныя рок-нрольныя вечарыны з дзесяці гадзін вечара і да шостай раніцы, а таксама адсутнасць бара, што дазваляе наведнікам рыхтаваць сваё меню самастойна і загадзя. Для сяброў творчага грамадскага аб'яднання існуюць шматлікія бонусы, напрыклад, зніжка на амаль усе мерапрыемствы клуба.
У 2013 г. бітлз-клуб перамясціўся ў будынак XIX ст. па адрасе вул. Кастрычніцкая, 12 (літаральна праз дарогу ад старога месца). Нязменнай засталася лакацыя клуба — ён адкрыўся пад дахам. Такім чынам, «Паддашак» застаецца адным з самых значных цэнтраў нефармальнай культуры Віцебска. Сёння тут праводзяцца не толькі начныя і вечаровыя канцэрты, але і кінапаказы, літаратурныя і тэатральныя імпрэзы, выставы, маркеты, майстар-класы, лекцыі і г. д.

Марк Шагал (1887–1985) — сусветна вядомы мастак, які ўганараваў Віцебск не толькі фактам свайго нараджэння, але і зрабіў горад адной з тэм сваёй творчасці, што надало Віцебску шырокую вядомасць у мастацкай культуры свету.

Нарадзіўся ў Віцебску ў небагатай яўрэйскай сям'і 24 чэрвеня па старым стылі (6 ліпеня па новым, аднак дзень свайго нараджэння заўсёды адзначаў 7 ліпеня) 1887 г. У 1900–1905 гг. вучыўся ў Віцебскім гарадскім вучылішчы, дзе атрымаў пачатковую адукацыю. Пазней на працягу некалькіх месяцаў наведваў мастацкую школу Іегуды Пэна. Зімой 1906–1907 гг. паступіў у Рысавальную школу Таварыства падтрымкі мастацтваў у Пецярбургу. У 1909–1910 гг., пакінуўшы школу ТПМ, наведваў у сталіцы Расійскай імперыі прыватную школу жывапісу Лізаветы Званцавай, дзе вучыўся ў Льва Бакста і Мсціслава Дабужынскага. У 1911 г., атрымаўшы невялікую стыпендыю ад дэпутата Дзяржаўнай Думы Максіма Вінавера, пераехаў у Парыж. Наведваючы парыжскія акадэміі і галерэі, Шагал зазнаў уплыў кубізму. Прымаў удзел у выставах у Парыжы і Берліне, дасылаў свае працы на выставы ў Маскву і Пецярбург. У 1914 г. пасля адкрыцця персанальнай выставы ў Берліне ў авангарднай галерэі «Der Sturm» вярнуўся ў Віцебск, плануючы правесці на радзіме тры месяцы. Аднак з-за пачатку Першай сусветнай вайны ўжо не меў магчымасці вярнуцца ў Еўропу.

У 1915 г. у Віцебску ўзяў шлюб з Бэлай Разенфельд (1889–1944), якая да канца свайго жыцця заставалася для мастака сапраўднай музай і натхняльніцай. Будучы мабілізаваны ў армію, служыў у Ваенна-прамысловым камітэце ў Пецярбургу, куды пераехаў разам з сям'ёй. 18 траўня 1916 г. у Шагалаў нарадзілася дачка Іда (памерла ў Парыжы ў 1994 г.).

У 1918 г. вярнуўся з Пецярбурга ў Віцебск, дзе хутка пачаў працу па арганізацыі Народнага мастацкага вучылішча. У верасні 1918 г. быў прызначаны ўпаўнаважаным па справах мастацтваў Віцебскай губерні Калегіі па справах мастацтваў Народнага камісарыята асветы. Афіцыйнае адкрыццё вучылішча адбылося ў студзені 1919 г. Яго першым дырэктарам стаў М. Дабужынскі, пазней школу ўзначаліў сам Шагал. У розны час у якасці выкладчыкаў у вучылішчы па запрашэнні Шагала працавалі такія вядомыя мастакі, як Іван Пуні, Ксенія Багуслаўская, Яніс Тыльбергс, Лазар Лісіцкі, Вера Ермалаева, Казімір Малевіч, Ніна Коган, Іегуда Пэн, Давід Якерсон і інш. Дзякуючы дзейнасці вучэльні, створанай Шагалам, Віцебск увайшоў у гісторыю рускага авангарда (з 1917 па 1924 гг. Віцебск быў часткай Савецкай Расіі).

Летам 1920 г. Шагал пакінуў вучылішча, дзе лідзіруючыя пазіцыі заняло аб'яднанне УНОВІС пад кіраўніцтвам К. Малевіча, і з'ехаў з Віцебска ў Маскву. Праз два гады разам з сям'ёй пераехаў у Берлін, потым — у Парыж. У 1941–1947 гг. жыў у Амерыцы, пазней зноў вярнуўся ў Францыю. Апошнія дзесяцігоддзі жыцця правёў на ўласнай віле каля горада Сен-Поль-Дэ-Ванс на поўдні Францыі. Пахаваны на могілках у Сен-Поль-дэ-Вансе.

Атрымаў самае шырокае прызнанне яшчэ пры жыцці. Выставы прац Шагала праводзіліся і праводзяцца да гэтага часу па ўсім свеце. Яго творы знаходзяцца ў калекцыях самых знакамітых музеяў. У 1977 г. прэзідэнт Францыі ўганараваў Шагала найвышэйшым знакам годнасці і афіцыйнага прызнання заслуг — Вялікім крыжам ордэна Ганаровага легіёна.

У свеце існуюць толькі два музеі мастака. Першы быў адчынены ў 1973 г. у горадзе Ніца, другі — у 1991 г. у Віцебску.

Ы

# Масты



Кастрычніцкі мост цераз Віцьбу ў цэнтры Віцебска

Па тэрыторыі Віцебска працякае рака Дзвіна са сваімі прытокамі Віцьбай ды Лучосай. Разам з ручаямі яны падзяляюць горад на шматлікія ўчасткі, якія былі б зусім адасобленымі адзін ад аднаго, калі б не масты. У сярэдзіне XVII ст. у Віцебскім замку іх налічвалася 4, а на карце горада, складзенай у 1904 г., адлюстравана ўжо 9 мастоў. Зараз жа ў абласным цэнтры маецца 7 аўтадарожных, 11 пешаходных, 2 чыгункавыя масты і 15 шляхаправодаў.

Праз самую вялікую раку сягае найменшая колькасць мастоў. Берагі Заходняй Дзвіны злучаюць Кіраўскі, КІМаўскі масты і мост Блахіна. Першы з іх быў узведзены на месцы старога Дзвінскага моста, які існаваў з 1860-х гг. і меў стратэгічнае значэнне — праз яго вяла дарога з усходняй часткі горада да чыгуначнага вакзала. Будаўніцтва Кіраўскага моста было пачата пасля Вялікай Айчыннай вайны і завяршылася ў 1955 г., яго працягласць складае 236 м.

Мост Блахіна з'явіўся ў Віцебску ў 1934 г. і першапачаткова называўся Новым. Падстава для яго перайменавання ўзнікла падчас Вялікай Айчыннай вайны, калі камандзір сапёрнага ўзвода Фёдар Блахін выратаваў мост, што на той момант заставаўся адзіным ацалелым у горадзе, ад узарвання фашысцкімі захопнікамі. У гонар свайго выратавальніка ён быў названы ў 1974 г. У намінацыі «самы доўгі ў Віцебску» мост Блахіна займае першае месца: яго даўжыня — 326 м.

КІМаўскі мост даўжынёй 228 м быў пабудаваны ў 1978 г., ён злучае вуліцы М. Горкага і Зеленагурскую.

Праз раку, якая дала назву гораду, перабрацца прасцей за ўсё. Патрапіць праз Віцьбу на супрацьлеглы бераг можна па такіх мастах, як Юбілейны (пабудаваны з нагоды 1000-годдзя Віцебска ў 1973 г., даўжыня — 33 м), імя Баўмана (пабудаваны ў 1956 г., даўжыня — 46 м), Кастрычніцкі (узведзены ў 1958 г., яго працягласць — 51 м), Пушкінскі (даўжынёй 28 м, з'явіўся ў горадзе ў 1961 г.), 1000-годдзя Віцебска (пабудаваны ў 1976 г., сягае на 144 м) і 6 невялічкіх безназоўных масткоў у парках і зонах адпачынку.

Адметнасцю моста, названага ў гонар рускага паэта Аляксандра Пушкіна, з'яўляюцца замкі, якімі яго парэнчы «абрастаюць» кожныя выхадныя. Мост — улюбёнае месца гараджан, каб ладзіць вясельны абрад, калі жаніх пераносіць нявесту на руках з аднаго берага на іншы. Пасля гэтага маладая пара прычэплівае замок як сімвал моцнага кахання. Папулярнасць моста забяспечана не толькі знаходжаннем у цэнтры горада, але, мабыць, яшчэ і невялікай даўжынёй. Праз Лучосу ў горадзе вядзе ўсяго адзін мост — імя Шмырова, пабудаваны ў 1961 г.

Акрамя таго, у Віцебску ёсць два пешаходныя масткі праз ручай Дунай (першы — у парку імя Фрунзэ, а другі — ля летняга амфітэатра) і адзін — праз Гапееў ручай (у раёне вуліцы Праўды).

Ь

# Карл Гібенталь



Пляцоўка, на якой раней стаяў дом Карла Гібенталя

Кожны куток спакойнай і размеранай вуліцы Талстога ў гістарычным цэнтры Віцебска тоіць у сабе маленькую гісторыю з жыцця вялікага горада. Адна з іх звязана з доктарам Карлам Гібенталем, немцам па паходжанні, які валодаў домам, што яшчэ да вайны стаяў у скверы, дзе цяпер размешчана кафэ «Мікалаеўскі хутарок». Чалавек, які ўпершыню прапанаваў прымяняць гіпс для лячэння пераломаў, Карл Філіп Врангель фон Гібенталь большую частку свайго жыцця пражыў у Віцебску. Ён нарадзіўся ў Кашынскім павеце Цвярской губерні, вывучаў медыцыну ў лепшых універсітэтах Гетынгена і Марбурга. Атрымаўшы ў 1805 г. ступень доктара медыцыны, паступіў на службу ў армію Расійскай імперыі, прымаў удзел у паходах і баявых дзеяннях 1805–1808 гг.

У хірургічнай практыцы доктару Гібенталю дапамагала разнастайнасць інтарэсаў і захапленняў. Акрамя рускай, ён ведаў яшчэ 7 еўрапейскіх моў, ахвотна займаўся сельскай гаспадаркай, захапляўся жывапісам, архітэктурай, лепкай з гіпсу. Менавіта апошні занятак і спарадзіў думку аб выкарыстанні гіпсу для лячэння пераломаў касцей. Аднойчы, калі доктар сядзеў у кабінеце і ляпіў бюст свайго сябра, на прыём прывезлі хворага. Гэта быў работнік аднаго з мінскіх купцоў, на якога няўдала ўпала дрэва і моцна пераламала левае перадплечча. Управіўшы перапом, Гібенталь вырашыў зафіксаваць зламаныя косці пры дапамозе гіпсавай масы. Да здзіўлення хірурга на наступны дзень выявілася, што паранены ўсю ноч пачуваў сябе спакойна. Праз месяц косці зрасліся і павесялелы работнік мог валіць лес і распілоўваць яго без усялякай нязручнасці ў руцэ.

Аб выніках першага ўдалага вопыту ў гэтай вобласці Гібенталь паведаміў медыка-хірургічнай акадэміі ў Пецярбургу яшчэ ў 1812 г. Аднак вядучы сталічны хірург Іван Буш адгукнуўся аб наватарскай прапанове стрымана: «Гэта добра пры простых пераломах, але пры складаных — карысці мець не можа». Спатрэбілася яшчэ 40 гадоў і аўтарытэт Мікалая Пірагова, які ўдасканаліў спосаб доктара Гібенталя, каб гіпс пачалі шырока прымяняць для лячэння пераломаў.

З 1816 г. Карл Гібенталь жыў у Віцебску. Ён быў надзвычай папулярным доктарам, вынаходзіў новыя хірургічныя інструменты, ставіў першыя вопыты па трансплантацыі органаў розных жывёл, што далёка не заўсёды знаходзіла разуменне ў мясцовых абывацеляў. «То абрэжа ногі парасяці і прышые да яго лапы качкі, то адсячэ хвост кату з мэтай прырасціць да яго пеўневы грэбень», — так пісаў пра эксперыменты Гібенталя адзін з яго сучаснікаў этнограф і мемуарыст Максіміліян Маркс.

Імя Гібенталя стала вядома ўсёй урачэбнай Расіі ў часы халернай эпідэміі 1830 г. Для барацьбы з хваробай доктар распрацаваў спецыяльную методыку, якая была паспяхова выкарыстана не толькі ў Віцебску, але таксама ў Ніжнім Ноўгарадзе, Волагдзе, Саратаўскай губерні, на Валыні. Метады Гібенталя выкарыстоўваліся і французскімі дактарамі пры барацьбе з эпідэміяй у Парыжы.

Хочацца верыць, што памяць пра славутага доктара, аднаго з пачынальнікаў касцёва-пластычнай хірургіі будзе ўсё ж некалі належным чынам ушанавана ў Віцебску.

Э

# Першая віцебская электрастанцыя



Былы будынак першай электрастанцыі

Гісторыя будаўніцтва першай віцебскай электрастанцыі непарыўна звязана з арганізацыяй трамвайнага руху ў горадзе. У 1896 г. гарадскія ўлады далі дазвол грамадзяніну Францыі Фернану Гільёну на будаўніцтва электрычнай чыгункі. Кіраўніком праекта выступіў інжынер Разенталь, прадстаўнік фірмы «Шукерт і К°» з Нюрнберга. Непасрэдна мантажом цэнтральнай станцыі займаўся інжынер Штэйгер. Ужо праз два гады ў пачатку Задуноўскай вуліцы (зараз праспект Фрунзэ, 13) было скончана будаўніцтва цагляных машыннага і кацельнага будынкаў, над якімі ўзвысіўся комін амаль на 44 м.

Электраэнергія на станцыі выраблялася пры дапамозе трох дынама-машын пастаяннага току сістэмы «Шукерт», вал якіх круцілі тры паравыя машыны маркі «Кампаўнд», што забяспечваліся парам ад трох трубчатых паравых катлоў сістэмы «Бобкакс і Уілкакс», якія паліліся дровамі ці нафтай. Агульная магутнасць электрастанцыі складала 425 кВт (для параўнання: плануемая магутнасць Віцебскай ГЭС — 40 000 кВт). На пачатку свайго існавання электрастанцыя забяспечвала энергіяй 12 трамваяў, гарадскі тэатр, гарадскую думу і 100 вулічных ліхтароў. Аднак ужо ў 1915 г. галоўны акцыянер таварыства «Віцебскі трамвай» давёў магутнасць станцыі да 600 кВт, што дазволіла асвятліць шматлікія дзяржаўныя ўстановы, а таксама прыватныя кватэры заможных гараджан.

Доўгі час адна невялікая электрастанцыя не магла забяспечваць патрэбы горада, таму ўжо пры новай савецкай уладзе ў Віцебску распачалося будаўніцтва яшчэ дзвюх электрастанцый: у раёне Полацкай шашы і в. Лучосы. Не апошняе месца ў прыняцці гэтага рашэння адыграла аварыя на цэнтральнай станцыі: у 1922 г. зламаўся вал асноўнага дызеля вагой у дзве з паловай тоны. Фірма-вытворца адмовілася зрабіць рамонт, таму працы па замене прыйшлося выконваць Сормаўскаму заводу ў Ніжнім Ноўгарадзе.

У 1923 г. на цэнтральнай электрастанцыі быў зроблены капітальны рамонт абсталявання, уведзены ў эксплуатацыю новы запасны дызель, нарыхтавана паліва. Гэтую працу віцебскія камунальнікі прымеркавалі да 25 годдзя РКП(б). Да таго ж працоўныя на сваім урачыстым зборы 15 траўня 1923 г. аднагалосна прынялі рашэнне пра залічэнне Уладзіміра Ільіча Леніна ганаровым машыністам Віцебскай цэнтральнай электрастанцыі. Працоўныя электрастанцыі павінны былі адпрацоўваць змены за ганаровага машыніста, а грошы, выпісаныя яму па стаўцы, перадаваліся на карысць паветранага флоту. Ганаровыя змены праіснавалі некалькі месяцаў.

Нягледзячы на мадэрнізацыю, электрастанцыя не спраўлялася з патрэбамі горада. Таму неўзабаве пасля пуску БелДРЭС (г. п. Арэхаўск, Аршанскі р-н) першая віцебская электрастанцыя перайшла ў разрад рэзервовай.

У перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі прамысловы лёс будынка на Фрунзэ, 13 заканчваецца і ён становіцца месцам утрымання вязняў працоўнага лагера. Падчас вызваленчых баёў абваліўся высачэзны комін, а сам будынак быў пашкоджаны. Новае жыццё ў яго прыйшло ў 1988 г., калі тут размясціўся Літаратурны музей. У 2009 г. установу закрылі на рамонт.

У гонар першай віцебскай электрастанцыі ў 2005 г. віцебскім скульптарам Валерыем Магучым была зроблена мемарыяльная дошка, якую можна пабачыць і зараз на сцяне адрэстаўраванага будынка.

Юр'ева горка — самы «заўважны» сімвал горада. Яркія чырвоныя агні тэлевежы на ёй уначы ці тонкі абрыс вышкі ўдзень відаць за некалькі дзясяткаў кіламетраў ад Віцебска. Не дзіва! Вышыня тэлевежы — 240 м, а даўжыня дратоў, якія забяспечваюць дзейнасць перадатчыкаў і рэтранслятараў, — 5 км. Пабудавана вежа ў 1983 г. паводле праекта ўкраінскай арганізацыі «УкрНДІпраектстальканструкцыя імя В. М. Шыманоўскага». Папярэдняя тэлевышка вышынёй 98 м была збудавана ў 1959 г.

Тэлевежа на Юр'евай горцы — самае высокае месца ў горадзе, але другая па вышыні ў вобласці. Ва Ушачах тэлемачта вышынёй 375 м. З 2010 г. наша мае святочную ілюмінацыю.

Пакрытая старымі хвоямі Юр'ева горка заўсёды прыцягвала наведнікаў. З сярэдзіны XIX ст. яна была прызнаным месцам адпачынку жыхароў горада. Тут рабілі нядзельныя гулянкі кампаніямі, сем'ямі і парамі. Тут упершыню ў Віцебску адзначалі забароненае на той час свята салідарнасці ўсіх працоўных — 1 траўня. Працягвалі на горцы адпачываць у святочныя і нядзельныя дні і ў XX ст. А ў 1950–1970-я гг. тут праводзіліся спаборніцтвы па мотакросу.

Назву горка атрымала ад царквы святога Юр'я, якая стаяла на святой крыніцы. Месца, якое шанавалася здаўна. Верагодна, што тут было капішча Ярылы — бога вясновага абуджэння, урадлівасці ў славян. Адпаведна паданню, ён змагаўся са змеем і перамог яго ўдарам дзіды. Змейператварыўся ў высокую і доўгую гару, а ў тым месцы, дзе Ярыла патрапіў у яго кап'ём, пачала біць крыніца. З прыходам хрысціянства культ шанавання язычніцкага бога быў заменены на Святога Георгія, ці Юр'я. Над крыніцай была ўзведзена капліца, прысвечаная Юр'ю, адсюль атрымала назву і гара. У савецкія часы капліцу зачынілі, а ў гады вайны яна згарэла. Але па традыцыі сюды ўсё роўна хадзілі браць «святую» ваду. На пачатку XXI ст. крыніцу добраўпарадкавалі. У 2011 г. пабудавана купель. Амаль у любы час месца поўніцца людзьмі, жадаючымі набраць ваду.

На адным са схілаў горкі месцяцца Старасямёнаўскія могілкі. Гістарычна яны складаюцца з трох частак: праваслаўнай, лютэранскай і ваеннай, але цяпер закрытыя для новых пахаванняў. Тут знаходзяцца магілы вядомых у Віцебску і краіне людзей: мастака, першага настаўніка Марка Шагала Іегуды Пэна; маці паэта, заснавальніка сучаснай латышскай паэзіі Яніса Райніса Дарты Пліекшане; сябраў падпольнай групы Лідзіі Бярозкінай, закатаваных фашыстамі ў 1942 г.; экіпажа самалёта Іл-76, які разбіўся ў лістападзе 1979 г., і інш.

Пасля добраўпарадкавання на Юр'евай горцы мог бы ўтварыцца някепскі агульнагарадскі парк. Гэта было б вельмі лагічна, асабліва зважаючы на доўгую традыцыю выкарыстання месца для адпачынку гараджан.

Я

# Тэатр імя Якуба Коласа




Будынак Тэатра імя Якуба Коласа

Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа — адзін з найстарэйшых прафесійных беларускіх тэатраў і адзіны нацыянальны калектыў Беларусі, які працуе ў абласным цэнтры. Ён можа пахваліцца як слаўнай гісторыяй, выдатным рэпертуарам, таленавітым акцёрскім складам, так і цікавай архітэктурнай плаціроўкай і выгадным размяшчэннем. Пабудаваны на тэрыторыі Верхняга замка (дзе, уласна, і пачынаў будавацца сам горад), ён з'яўляецца часткай гістарычнага цэнтра, адкуль адкрываецца цудоўны від на Дзвіну і многія славутасці Віцебска.

Сучасны будынак тэатра быў узведзены ў 1958 г., але свой адлік творчы калектыў вядзе з 21 лістапада 1926 г., калі з выпускнікоў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве (сярод якіх былі будучыя знакамітыя майстры коласаўскай сцэны — Аляксандр Ільінскі, Цімох Сяргейчык, Павел Малчанаў, Стэфанія Станюта і інш.) у Віцебску быў стораны Другі Беларускі дзяржаўны тэатр. Свой першы сезон трупа адкрыла спектаклем «У мінулы час» І. Бэна (творчы псеўданім драматурга Алеся Ляжневіча), які быў пастаўлены яшчэ ў студыі. Неўзабаве былі паказаны і іншыя пастаноўкі, таксама падрыхтаваныя ў Маскве: народная драма «Цар Максіміліян», «Сон у летнюю ноч» Уільяма Шэкспіра, «Эрат і Псіхея» Ежы Жулаўскага...

Гэтыя спектаклі, аднак, з цяжкасцю былі ўспрыняты непадрыхтаванай глядацкай аўдыторыяй правінцыйнага горада, якая жадала бачыць на сцэне нешта больш пэўнае і зразумелае. Калектыў вымушаны быў звярнуцца да твораў рэвалюцыйнай тэматыкі, уключаючы ўсё ж у свой рэпертуар таксама п'есы сусветнай і беларускай драматургіі. Асабліва плённым стала супрацоўніцтва тэатра з Янкам Купалам (спектаклі «Паўлінка» і «Прымакі») і Якубам Коласам (пастаноўкі «Вайна вайне» і «У пушчах Палесся»). Менавіта драматургія двух славутых песняроў упершыню далучыла акцёраў да спасціжэння на сцэне беларускага нацыянальнага характару. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны быў пастаўлены «Несцерка» Віталя Вольскага, спектакль, які на працягу ўсіх далейшых гадоў стаў своеасаблівым сімвалам тэатра.

У 1944 г. тэатру ў Віцебску нададзена імя народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, у 1977 г. прысвоена званне акадэмічнага, у 2001 г. — нацыянальнага.

Тэатр імя Якуба Коласа добра вядомы за межамі нашай краіны. Творчая група неаднаразова выязджала на гастролі ў гарады Расіі, Літвы, Украіны, Польшчы, Германіі, удзельнічала ў Шылераўскім фестывалі ў Веймары, Лонданскім фестывалі «Усход — Захад». Спектаклі «Шагал...Шагал...» і «Мадам Боншанс» у пастаноўцы Віталя Баркоўскага станавіліся прызёрамі Эдынбургскага фестывалю ў 2000 і 2001 гг.

Сёння ў рэпертуары тэатра п'есы беларускіх і замежных аўтараў. І ўсё ж да якіх бы твораў ні звяртаўся тэатр, самыя значныя дасягненні заўжды асветлены яркімі акцёрскімі індывідуальнасцямі. Акцёр на коласаўскай сцэне быў і застаецца галоўным носьбітам філасофіі мастацтва і жыцця, уладаром душ і дум чалавечых.

# Віцебскі алфавіт

Аўтары:

| | |
|---|---|
| Віктар Барысенкаў | Ж, К |
| Уладзімер Булаўскі | Ч |
| Станіслаў Валуй | Е, Э |
| Раман Воранаў | Б |
| Вольга Давідоўская | Г, Ў |
| Максім Каралёў | В, Д |
| Канстанцін Карпекін | Р, Ы |
| Мікалай Півавар | А, З, Н, Х, Ю |
| Настасся Трафімчык | Л, Ь, Я |
| Людміла Хмяльніцкая | Ё, О, П, Т, У, Ш |
| Міхась Цыбульскі | І, М, С, Ф, Ц |
| Дзяніс Якаўлеў | Й |

| | |
|---|---|
| Рэдакцыя і ўкладанне: | Раман Воранаў |
| Дызайн і вёрстка: | Ігар Юхневіч |
| Карэктура: | Настасся Трафімчык |
| Фотаздымкі: | Аляксандра Гарлачова-Русалоўская |

Віцебск, 2015    VK.com/VitebskABC

Інфармацыйная падтрымка:

34MAG.NET




VITEBSK.BIZ



Народныя навіны Віцебска







VITEBSK4.ME

AFISHA.TUT.BY